www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**


# Народная Воля

**№ 27 (4279)**

3 красавіка 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

АДКРЫТАЕ ПЫТАННЕ

## Ярмошына не выключае правядзення рэферэндуму па ўнясенні змен у Канстытуцыю



Гэта вынікае з яе ўчарашняй заявы журналістам.

Яна падкрэсліла, што калі ініцыятар рэферэндуму дасць адмашку, то ўсе падрыхтоўчыя працэдуры рэальна правесці за 60–70 дзён.

ТЭНДЭНЦЫЯ



## Рублі альбо долары: які дэпазіт выбраць?

*У Беларусі павялічваюцца тэрміновыя рублёвыя ўклады насельніцтва.*

У лютым гэтага года ўклады ў нацыянальнай валюце павялічыліся на 75,4 млн рублёў, а ўклады ў валюце зменшыліся на 66,2 млн долараў. І гэта тэндэнцыя па змяншэнні валютных дэпазітаў цягнецца ўжо больш за год. Якія дэпазіты зараз лепш выбраць?

*“Стаўкі па ўкладах у рублях зараз вышэйшыя, чым узровень інфляцыі і дэвальвацыі, таму зараз яны для людзей больш прывабныя*, – адзначае старшы аналітык кампаніі “Альпары” **Вадзім Іосуб.** – *А вось стаўкі па доларавых дэпазітах сталі настолькі нізкія, што прыбытак зусім мізэрны. Тым больш калі суму паклалі невялікую”.*

Тым не менш эксперт раіць усё-такі захоўваць грошы ў розных валютах.

*“Будзе разумна палову зберажэнняў трымаць на дэпазіце ў беларускіх рублях, а палову ў валюце*, – дадае ён. – *Пры гэтым не толькі ў доларах, але і ў еўра”.*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ФОРУМ

## 6 красавіка ў Мінску збяруцца вышэйшыя дыпламатычныя асобы СНД

Яны разгледзяць аж 12 пытанняў, звязаных з супрацоўніцтвам паміж дзяржавамі – удзельніцамі СНД у палітычнай, эканамічнай, культурнай і адукацыйнай сферах, узаемадзеяннем знешнепалітычных ведамстваў.

ЧУЛІ?

## Маршрут традыцыйны...

У Мінгарвыканкам пададзена заяўка на правядзенне ў Мінску 26 красавіка традыцыйнага Чарнобыльскага Шляху: шэсця і мітынгу ў памяць ахвяр катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі.

– *Маршрут выбраны традыцыйны, з месцам збору каля Акадэміі навук,* – *паведаміў* старшыня Руху “За Свабоду” Юрась Губарэвіч. – *26 красавіка – гэта працоўны дзень. Таму час збору плануецца ў 18.00. Адпаведна першае мерапрыемства пройдзе яшчэ на самой пляцоўцы. Пасля чарнобыльскае жалобнае шэсце да капліцы ў парку Дружбы народаў. І там, на завяршэнне мерапрыемства, да 21.30 адбудзецца жалобны мітынг і пройдзе супольная малітва.*

Заяўку падпісалі прадстаўнікі сямі беларускіх дэмакратычных партый і арганізацый: Партыі БНФ, Аб’яднанай грамадзянскай партыі, руху “За Свабоду”, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), Руху салідарнасці “Разам”, Беларускай партыі “Зялёныя” і аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя».

СИТУАЦИЯ

Александр МИГУН,
руководитель службы маршрутного такси
«Туровский экспресс»:

## «Ждем, что будет дальше...»

Среди тех, кто пострадал от неразберихи, возникшей в конце февраля на рынке междугородных пассажирских перевозок из-за обновленной редакции закона «Об автомобильном транспорте и автомобильных перевозках», стали жители Турова, Житковичей, Давид-Городка. Тогда, как известно, многие водители, которые осуществляли «нерегулярные перевозки» из одного населенного пункта в другой, не вышли в рейсы, и среди забастовщиков, которые приостановили свою деятельность, был «Туровский экспресс». А между тем только на маршрутках этого перевозчика жители туровского региона могли доехать до столицы. Маршрут Давид-Городок–Минск проходил через Житковичи и Туров.

16 марта в интервью «Народной Воле» начальник управления автомобильного и городского пассажирского транспорта Министерства транспорта и коммуникаций **Сергей Дубина** сказал, что маршрутки на Житковичи снова поехали. Однако недавно в «Народную Волю» пришло письмо от жительницы Турова **Людмилы Земляник**, которая упрекала чиновника в недостоверной информации. *«Ни на какие Житковичи маршрутки не поехали,* – возмущалась Людмила Савельевна. – *А хуже всего, что маршрутки не ходят на Туров. Но именно на них туровцы и жители окрестных деревень ездили в Минск и обратно. На маршрутках из Минска домой приезжали студенты взять картошки, капусты, кусок сала. Маршрутки ходили точно по расписанию. Население Турова знало это расписание, все всегда можно было уточнить по телефону. Всем было очень удобно! А что сейчас?! Мы отрезаны от мира. Прежде чем отдавать какие-то приказы, уважаемые чиновники, дайте их народу на обсуждение. Ведь страдает от этого только народ!»*



Мы попытались разобраться в ситуации. Неужели представитель Министерства транспорта и коммуникаций не владеет информацией?

Оказалось, что буквально в тот день, когда письмо Людмилы Земляник пришло в редакцию, служба маршрутного такси «Туровский экспресс» возобновила свою работу. И сейчас по маршруту Давид-Городок–Минск осуществляется шесть рейсов. Первая маршрутка из Давид-Городка отправляется в 5 утра, последняя – в 19.00.

– Проблема в том, что понтонная переправа через Припять не всегда функционирует, – поясняет руководитель «Туровского экспресса» **Александр Мигун**. – Только к концу года власти обещают построить там стационарный мост. Сейчас же, когда неблагоприятные погодные условия и нет переправы, наши маршрутки не могут доехать ни до Давид-Городка, ни до Турова, ни до Житковичей, ни до Ольшан. Доезжаем только до переправы, до деревни Борки. А уже оттуда людей на катере переправляют через Припять. Но это небезопасно. Катера убитые, могут заглохнуть посреди реки, течением их сносит. Многие не хотят рисковать, поэтому и пассажиропоток не ахти. За всю зиму я там практически ничего не заработал

Но буквально со 2 апреля понтонную переправу восстановили, очень надеюсь, что она теперь будет постоянно функционировать. А к концу года, если власти сдержат слово, появится мост через Припять.

*(Окончание на 2-й стр.)*

ЗА ПРАХАДНОЙ

## Уратаваць заводы – не ў футбол згуляць

Некалькі гадоў таму футбалістаў клуба БАТЭ перад матчам еўрапейскага турніру ў Балгарыі назвалі “трактарыстамі”. Суайчыннікі знакамітай прарочыцы Вангі як быццам ведалі, што чакае беларусаў у будучым. Нядаўна генеральны дырэктар ААТ “МТЗ” Фёдар Дамаценка і кіраўнік футбольнага клуба БАТЭ Анатоль Капскі падпісалі пагадненне аб тым, што Мінскі трактарны завод становіцца генеральным спонсарам футбалістаў. Паводле слоў Фёдара Дамаценкі, ён нядаўна, пасля праведзеных трактарных ралі і трактарнага біятлона, пераканаўся, што спорт можа станоўча ўплываць на эканоміку.

Чаму ж побач, у Барысаве, буйным прамысловым цэнтры, адпаведных спонсараў не знайшлося? Мінскаму трактарнаму заводу, нягледзячы на прывабнасць спорту, нялёгка будзе выконваць ролю спонсара. Яму цяпер хоць разарвіся: у дадатак да БАТЭ абвешчана яшчэ і аб спонсарстве над хакейным “Дынама”.

Першы месяц бягучага года прынёс прамысловасці Барысава сумныя вынікі. Амаль палова прадпрыемстваў горада, дакладней 44 працэнты, стратныя. Цёзка футбольнага клуба – ААТ “БАТЭ”, якім доўгі час кіраваў Анатоль Капскі, – апошнім часам трывала засеў у ліку аўтсайдараў. Заводу актыўна шукаюць інвестара, які мог бы падкінуць для рэалізацыі сумеснага праекта не менш за 80 мільёнаў долараў. Але жадаючых пакуль не знайшлося.

Работнікі прадпрыемства, з якімі ўдалося пагутарыць, упэўнены, што прычынай заняпаду з’яўляецца ў першую чаргу стварэнне холдынга і недастатковая ўвага да мадэрнізацыі вытворчасці. Дыягназ, які можна ставіць многім прадпрыемствам.

ААТ “БАТЭ” з’яўляецца кіруючай кампаніяй холдынга “Аўтакампаненты”, у які ўваходзіць і барысаўскі завод “Аўтагідраўзмацняльнік”. Яшчэ летась гэтае прадпрыемства пачувалася ў эканамічным сэнсе больш трывала, чым БАТЭ. Сёлета з самага пачатку года ў яго ўзнік шэраг праблем.

У сярэдзіне студзеня новым дырэктарам “Аўтагідраўзмацняльніка” прызначылі Сяргея Клімовіча. Яго перавялі ў Барысаў з Рудзенска, дзе ён кіраваў ААТ “Рудзенск” (спецыялізуецца на выпуску светатэхнічных вузлоў для аўтатрактарных заводаў).

Насуперак звычайным у такіх выпадках спадзяванням на лепшае па заводзе папаўзлі чуткі аб чорнай паласе, у першую чаргу непакояць нізкія заробкі і значныя звальненні. Чуткі ніхто не абвяргае. У прафкаме не выключаюць варыянта, што кантракты з многімі работнікамі працягвацца не будуць.

Рабочых з механічнага цэха №3 адправілі ў адпачынак за свой кошт. Прычына – няма загатовак шасцерань. Такога, сцвярджаюць рабочыя цэха, не было за ўсю гісторыю прадпрыемства. Яшчэ напрыканцы мінулага года ў цэх мабілізоўвалі спецыялістаў з аддзелаў і другіх структур для работы ў другую-трэцюю змены.

Заводскім работнікам стала вядома, што паездка новага дырэктара Сяргея Клімовіча на Ульянаўскі аўтазавод не прынесла жаданых вынікаў. Пра павышэнне коштаў на вузлы з Барысава там і слухаць не захацелі, а таксама выказалі прэтэнзіі да іх якасці. У выніку пастаўкі ў далёкі горад зменшыліся амаль у чатыры разы.

Характэрная асаблівасць барысаўскіх заводаў холдынга – ігнараванне комплекснай мадэрнізацыі. Абсталяванне ў цэхах рабочыя называюць не інакш як ламаччам.

Праўда, у кіраўніцтва іншы погляд. Падчас наведвання другой заводскай пляцоўкі “Аўтагідраўзмацняльніка” дырэктар Сяргей Клімовіч абвінаваціў работнікаў у безгаспадарчасці і марнатраўстве. Гнеў выклікала наяўнасць “ізалятараў браку”, куды трапляюць дэталі, з дапамогай якіх вядзецца наладка станкоў на новую серыю. Паколькі “злавіць памер” ніколі і нікому на існуючым абсталяванні не ўдавалася, то брак непазбежны.

Яшчэ больш дырэктара не задаволіла тое, што рабочыя задалі яму многа пытанняў аб мізэрных заробках, аб холадзе ў цэхах.

Новы кіраўнік зрабіў выснову, што дысцыпліна адсутнічае, кадры разбэшчаны, многага патрабуюць, цярпець такога ён не будзе.

Нядаўна пачалі рыхтавацца да значнага скарачэння слесараў-рамонтнікаў, хаця нават цяперашнім складам ім з цяжкасцю ўдаецца падтрымліваць зношаныя станкі ў працоўным стане.

Работнікі «Аўтагідраўзмацняльніка”, з якімі ўдалося пагутарыць у канцы змены, не выключаюць версіі, што іх прадпрыемства рыхтуюць да банкруцтва.

Тыя спецыялісты “АГУ”, якім пашчасціла пабываць на заводах у Кітаі, распавядаюць, што яны пабачылі вытворчасць рулявых механізмаў, насосаў, электраабсталявання для аўто на самым сучасным германскім і амерыканскім абсталяванні, кітайскае – толькі на чарнавых аперацыях. З такім падыходам кітайцы з лёгкасцю выціснуць беларускіх вытворцаў з аўтамабільных заводаў Расіі. Першыя паразы ў Барысаве ўжо адчулі.

Холдынг “Аўтакампаненты” атрымаў у 2016 годзе дапамогу ад дзяржавы ў 40 мільёнаў долараў, але значная падтрымка не выратавала ад страт.

**Мікіта АКСАМІТ.**

ІХ ПРЫКЛАД

## Чыноўнікі, павучыцеся ў латышоў

Пакуль беларусы разважаюць пра тое, як вярнуць у школу навучанне на роднай мове, у Латвіі ўзялі і на дзяржаўным узроўні прынялі закон перавесці ўсе латвійскія школы на латышскую мову навучання.

У Латвіі, канешне, сітуацыя іншая, не такая, як у нас, але і там, нягледзячы на тое, што ў краіне адна дзяржаўная мова – латышская, амаль трэць школ вяла навучанне з выкарыстаннем рускай мовы. Лічылася, што гэта школы нацыянальных меншасцяў. А зараз пакрысе іх перавядуць на латышскую мову. Як гэта будзе адбывацца? Пачаргова! З 1-га па 6-ы клас навучанне ў школах будзе ісці на дзвюх мовах – рускай і латышскай, з 7-га па 9-ы клас 80% вучэбнага працэсу ўжо пяройдзе на латышскую мову, а ў старэйшых класах навучанне будзе праходзіць цалкам на нацыянальнай мове.

Дык можа, і нам варта вось так акуратна, пачаргова пераводзіць сярэднюю школу на родную мову? Што ці хто нам замінае? На мой погляд, бар’ер толькі адзін – не хапае чыноўніцкай волі.

**А.А.ГАРДЗІЕВІЧ.**
*Мінскі раён.*

ПРЭСінг

## Ананімных каментарыяў у інтэрнэце не будзе?

ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” атрымала ад Палаты прадстаўнікоў праект закона «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь». Папраўкі тычацца закона «Аб сродках масавай інфармацыі».

Асноўныя моманты, якія прапануюцца, тычацца добраахвотнай рэгістрацыі інтэрнэт-рэсурсаў у якасці СМІ. У такім разе іх супрацоўнікі атрымаюць (у некалькі ўрэзаным выглядзе) правы традыцыйных СМІ – напрыклад, змогуць праходзіць акрэдытацыю ў дзяржаўных органах, працаваць на масавых акцыях, мець права на абарону крыніцы інфармацыі. Аднак у такім разе трэба будзе мець юрыдычны адрас і праходзіць зацвярджэнне галоўнага рэдактара ў Міністэрстве інфармацыі.

Рэгістрацыю можна і не праходзіць, аднак усё адно давядзецца выконваць абавязкі, прадугледжаныя Законам “Аб СМІ”.

Сярод галоўных навацый плануецца ўвядзенне абавязковай ідэнтыфікацыі каментатараў і ўдзельнікаў форумаў. Апроч таго, допускаецца магчымасць блакіравання сацыяльных сетак, калі сацсетка адмовіцца выдаліць нейкую інфармацыю з чыёйсьці старонкі. Прапісваецца магчымасць аднаўлення доступу да інтэрнэт-рэсурсаў, якія трапілі ў «чорны спіс», але толькі шляхам звароту ў Міністэрства інфармацыі і без указання на магчымасць абскардзіць яго рашэнне ў суд.

«*Гэтыя змены ў заканадаўстве накіраваны на ўзмацненне кантролю за інтэрнэт-сферай у Беларусі*», – каментуе дакумент старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў **Андрэй Бастунец.**

ГА «БАЖ» рыхтуе свае заўвагі па законапраекце. 9 красавіка яны будуць прадстаўлены ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу.

СТАЛА ВЯДОМА

## Апыталі 18 тысяч чалавек, завялі дзве новыя крымінальныя справы

Пасля здарэння ў вайсковай часці ў Печах, калі быў знойдзены павешаным салдат Аляксандр Коржыч, апытаны 18 тысяч звольненых у запас ваеннаслужачых тэрміновай службы і іх сваякоў, распачаты дзве крымінальныя справы, паведаміў журналістам міністр абароны Андрэй Раўкоў.

Як вядома, 21-гадовага радавога Аляксандра Коржыча знайшлі ў пятлі са звязанымі нагамі і надзетай на галаву майкай 3 кастрычніка 2017 года ў склепе медроты. 5 кастрычніка ў якасці першапачатковай версіі следства назвала суіцыд, але сваякі з гэтым не пагадзіліся і заявілі аб гвалтоўным характары смерці.

У выніку СК распачаў справу па ч.3 арт.443 КК (парушэнне статутных правілаў узаемаадносін паміж асобамі, на якіх распаўсюджваецца статус ваеннаслужачага, пры адсутнасці адносін падпарадкаванасці, якое пацягнула цяжкія наступствы). Паведамлялася, што разглядаюцца тры версіі таго, што здарылася: давядзенне да самагубства, забойства і самагубства.

Паведамлялася таксама, што па справе Коржыча ўзяты пад варту 10 чалавек: два афіцэры (камандзір роты і яго намеснік), сем сяржантаў і прапаршчык. За непрыняцце мер па прадухіленні гібелі радавога з войска звольнены пяць чалавек, яшчэ двое адхілены ад працы.

**Таццяна КАРАВЯНКОВА,**
**БелаПАН.**

ЗНАЁМЦЕСЯ!

## 26-гадовы Павел Сапоцька – дырэктар Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі



Маладога культуролага прызначылі на гэтую пасаду 29 сакавіка. Ён змяніў Алега Рыжкова, які кіраваў музеем з 2013 года. Сам Павел Сапоцька раней узначальваў мастацкую галерэю «Універсітэт культуры».

*– Гэта вельмі нечаканае і прыемнае для мяне прызначэнне, бо я люблю Нацыянальны гістарычны музей, ведаю мерапрыемствы, якія там праводзяцца, людзей, што там працуюць*, – сказаў Павел Сапоцька. – *У музеі сабрана багатая матэрыяльна-духоўная і гісторыка-культурная спадчына Беларусі. І наша задача максімальна папулярызаваць тое лепшае, што там ёсць. У планах рэалізацыя культурна-асветніцкіх праектаў, фондавая дзейнасць, правядзенне навукова-практычных канферэнцый, выдавецкія праекты, умацаванне міжнародных культурных сувязяў. Напрамкаў работы шмат. Калектыў добры – больш за 200 чалавек, 6 філіялаў. Таму ў найбліжэйшы час буду з усімі знаёміцца, вывучаць патэнцыял музея. І запусцім шэраг новых цікавых праектаў.*

Павел Сапоцька нарадзіўся 4 студзеня 1992 года ў Маладзечне. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў, спецыялізуецца на менеджменце сацыяльнай і культурнай сферы. У 2014 годзе скончыў магістратуру БДУКМ і выкладае на кафедры міжкультурных камунікацый гэтага ўніверсітэта.

З'яўляецца старшынёй праўлення Мінскага абласнога аддзялення Беларускага фонду культуры, намеснікам старшыні Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, выконвае функцыі адказнага сакратара дабрачыннага фонду «Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага» па Маладзечне, кіруе Цэнтрам міжкультурнага дыялогу і сацыяльных ініцыятыў Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва. Сябра розных грамадскіх аб'яднанняў і арганізацый.

ШОУ-БІЗНЕС

## Наташа Каралёва «пераязджае» ў Беларусь

*Амаль палову красавіка заслужаная артыстка Расіі Наташа Каралёва правядзе ў нашай краіне. Літаральна праз тыдзень у яе распачынаецца вялікі тур па Беларусі, які стартуе з Гомеля, а скончыцца ў Жодзіне. Канцэрты Каралёвай адбудуцца ў Паставах, Дзяржынску, Смаргоні, Светлагорску, Астраўцы, Баранавічах, Пінску і іншых беларускіх гарадах.*

Артыстка прэзентуе для беларусаў сваё юбілейнае шоу "Магія Л".

Вось што пісаў пасля прэм'еры гэтай імпрэзы ў Маскве вядомы расійскі музычны крытык **Артур Гаспаран**: "*Наташа Каралёва на сваім юбілейным шоу не крыўлялася, не ездзіла па мазгах, а проста ў прыгожых сукенках весела і заўзята спявала песні, якія ад яе хацелі чуць, – і старыя, і новыя. Прычым спявала так, як людзям падабалася, і тут ужо не важна, наколькі сціплы яе вакальны апарацік...*"

Квіткі на беларускія канцэрты Каралёвай каштуюць ад 38 да 58 рублёў. На некаторыя канцэрты яны раскуплены, а на некаторыя, як кажуць, бяры – не хачу! Праўда, невядома, ці будзе ў выпадку з турнэ Каралёвай задзейнічаны так званы адміністрацыйны рэсурс, калі білеты проста распаўсюджваюцца праз прафсаюзы прадпрыемстваў і такім чынам запаўняюцца залы. Так, дарэчы, было і ў выпадку з былым мужам Каралёвай кампазітарам **Ігарам Мікалаевым**, які не так даўно праехаўся з канцэртамі па беларускай глыбінцы. Квіткі на ягоныя выступленні каштавалі таксама нятанна – самыя дарагія былі па 70 рублёў. Не кожны ў сталіцы дазволіць сабе набыць, а што ўжо казаць пра рэгіёны, дзе заробкі мізэрныя! Дык няўжо людзі сапраўды аддавалі апошнія капейкі, каб пабачыць расійскага артыста? Аказалася, не. Паведамлялася, што, напрыклад, у адным з раёнаў Гродзенскай вобласці ў райвыканкам выклікалі ўсіх кіраўнікоў і абавязалі купіць на кожную гаспадарку па некалькі дзясяткаў – вось табе і аншлаг!

Між іншым, прадстаўнікі беларускага шоу-бізнесу не раз абураліся з нагоды такой сітуацыі. І выпадак з Ігарам Мікалаевым не стаў выключэннем. У сацыяльных сетках некаторыя артысты адкрытым тэкстам пісалі: арганізатары канцэртаў беларускіх артыстаў цяпер даволі часта сутыкаюцца з тым, што ім адмаўляюць кіраўнікі беларускіх пляцовак на карысць расіян. Маўляў, ну і як цяпер ездзіць з канцэртамі па рэгіёнах, нават з квіткамі ў дзесяць разоў таннейшымі, калі таму ж Мікалаеву сабралі гадавы рэгіянальны бюджэт, выдаткаваны на культурныя мерапрыемствы?

Дарэчы, **Наташа Каралёва** – прыхільніца беларускага трыкатажу і беларускай касметыкі. У сваіх інтэрв'ю яна гаворыць, што заўсёды набывае беларускія крэмы – яны натуральныя. Праўда, сем гадоў таму падчас аналагічнага гастрольнага турнэ па краіне Каралёва прызналася, што Беларусь нагадвае ёй Савецкі Саюз.

«*Калі прыязджаю ў Беларусь, у мяне такое адчуванне, што я вярнулася ў часы 25-гадовай даўніны*, – цытавалі журналісты словы артысткі. – *Цывілізацыя як бы і закранула Беларусь. Тут ёсць і модныя крамы, і клубы, і казіно вельмі шмат... Але тым не менш мяне не пакідае адчуванне, нібы я патрапіла ў Савецкі Саюз*».

**Марына КОКТЫШ.**

**На здымку: Наташа Каралёва і беларускі артыст і кампазітар Герман Цітоў.**



РОЗДУМ

# Мікалай ПІНІГІН: «Я чакаю беларускую п'есу, якая раскрые сутнасць нацыі»

*Гэта быў вельмі камерны вечар. Не толькі таму, што ён праходзіў на Камернай сцэне Купалаўскага тэатра. Але перш за ўсё таму, што мастацкі кіраўнік галоўнай драматычнай сцэны краіны Мікалай ПІНІГІН шчыра дзяліўся сваімі часам інтымнымі творчымі перажываннямі і ўспамінамі. Вечар зацягнуўся на некалькі гадзін. Мы публікуем толькі вытрымкі з гэтай вельмі хвалюючай размовы знакамітага рэжысёра з гледачамі.*



### Беларуская паненка Стэфанія Станюта

Я ўдзячны лёсу: мне давялося працаваць з вялікімі артыстамі.

Да 80-гадовага юбілею Стэфаніі Міхайлаўны Станюты я ставіў спектакль «Гаральд і Мод». Па-першае, для мяне гэта была сустрэча з чалавекам амаль што XIX стагоддзя. Станюта была паненка, асоба. Яе бацька быў цудоўны беларускі мастак, а муж, натуральна, сядзеў у 1930-я гады.



Стэфанія Станюта – гэта быў самы добры чалавек у тэатры. Грандыёзны чалавек. Вось я рэпецірую, а яна ідзе па праходзе залы, прыгінаючыся, каб не перашкаджаць, і незаўважна кладзе мне цукерку ў кішэню пінжака. Ну хто я быў тады для яе? Хлопчык (мне не было яшчэ і 30), які ставіць спектакль... Я прыйшоў сёння з партрэтам Стэфаніі Міхайлаўны, ён вісіць у мяне ў кабінеце. Гэта мой талісман. Арыгінал партрэта (аўтар – яе бацька) захоўваецца ў Нацыянальным мастацкім музеі. У спектаклі «Гаральд і Мод» ёсць такая сцэна: «Вось мой партрэт, – кажа гераіня Стэфаніі Міхайлаўны спадарыня Мод. – Тут мне 18 год». І артыстка на сцэне паказвае на свой рэальны партрэт.

Пасля спектакля Станюта звычайна замаўляла два таксі, і мы ехалі да яе дамоў піць шампанскае – усе артысты спектакля і рэжысёр. Хтосьці нават у багажніку. Аднойчы праязджаем праз плошчу Свабоды, і Станюта кажа: «Тут я, вучаніца рэальнага вучылішча, сустракала цара Мікалая II, які ехаў у Магілёў. Я памятаю, ён пагладзіў мяне па галоўцы і падарыў нават кветкі». Далей расказвала, што калі вучылася ў Маскве на пачатку 1920-х, то бачыла на мітынгу Леніна. А потым, ужо ў 1940-м годзе на першай Дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве, бачыла на банкеце Сталіна. И вось уявіце пачуцці таксіста... Ён дзікавата азіраўся на нас, а Станюта працягвала: «А па гэтым мосціку хадзіла конка».

Станюта – гэта падарунак лёсу. Таму што гэта сувязь не проста паміж тэатральнымі пакаленнямі, гэта сувязь паміж гістарычнымі часамі Беларусі. Яна дарыла людзям радасць, пяшчоту. Была вельмі прафесійная актрыса, яе вельмі любілі гледачы. А як чалавек яна наогул была геніяльная. Сапраўдная беларуская паненка!

### Варта паставіць «Тутэйшых» ізноў

«Тутэйшыя» – спектакль вельмі значны і для тэатра, і для мяне. Першы раз ён быў створаны ў 1920 годзе рэжысёрам Паповым з Масквы. Але яго адразу закрылі. Паўстагоддзя пасля гэтага купалаўскую п'есу паставіць было немагчыма. Упершыню я ўбачыў яе на сцэне, калі мой аднакурснік Валерый Маслюк, рэжысёр Магілёўскага тэатра, прывёз спектакль у Мінск. Не магу сказаць, што гэта быў дасканалы спектакль, але ён быў нешта накшталт... шухеру. Паказвалі на Купалаўскай сцэне. У зале сядзелі спецслужбы. Ішлі часы перабудовы.

Я рабіў «Тутэйшых» пазней, у кастрычніку 1990-га, ужо прадчувалася незалежная Беларусь, гучалі пытанні: хто мы, што мы, дзеля чаго мы? Навошта нам незалежнасць? Дзе нашы карані? І тут спатрэбіўся Янка Купала з гэтай п'есай. Пра што яна? Пра бясконцую беларускую ментальную здольнасць выжываць. Артыстам на рэпетыцыях я расказваю, як мы студэнтамі паехалі на бульбу ў Глыбоцкі раён. У выхадны мы ідзём на возера лавіць рыбу. Сядзіць дзядок. Мы пытаемся: «А рыба ў гэтым возеры ёсць?» Ён адказвае: «А куды яна падзенецца!» Мы прыйшлі, селі, аніводнай паклёўкі! Вяртаемся і кажам дзеду: «А ты казаў, што рыба ёсць!..» А ён у адказ: «А адкуль жа ёй узяцца?!» Цудоўная беларуская рыса – падтакваць, каб не пасварыцца.

Варта паставіць «Тутэйшых» ізноў. Таму што пакуль не будзе чарговага патопу, не зменіцца цалкам зямля і не змяшаюцца кантыненты, да гэтага моманту паміж лацінскай і візантыйскай цывілізацыямі будзе знаходзіцца Беларусь, і п'еса «Тутэйшыя» будзе актуальная. Можа, да 100-годдзя Купалаўскага і зробім гэту п'есу, але – па-іншаму. Не трэба паўтараць той спектакль, ён быў даўно. Але вось праблема: я не ведаю, дзе знайсці яшчэ аднаго маладога Віктара Манаева...

Я памятаю, што Ніл Гілевіч, такі два з лішнім метры чалавек, падышоў і абняў мяне на прэм'еры. Сказаў: «Хлопчык, ты сам не ведаеш, што ты зрабіў».

Гэта не я зрабіў – такія часы былі. Таўстаногаў геніяльна сказаў: "Канцэпцыя спектакля ляжыць у глядзельнай зале". Што маецца на ўвазе? Рэжысёр прадчувае патрабаванні людзей, якія прыйшлі ў тэатр, і адказвае на іх пытанні ў мастацкай форме. Гэта не кан'юнктура «чаго жадаеце?». Гэта прадбачанне цікавасці да тэатра.

### Класіка заўсёды працуе

На што можа натхніць сёння творчасць Купалы тэатр імя Янкі Купалы? Я бясконца перачытваю адны і тыя ж п'есы: сёння яна не працуе – праз дзесяць год пачынае працаваць. Таму што кантэкст узаемаадносін літаратуры і гледача мяняецца. І толькі класіка заўсёды працуе. Таму што яна звяртаецца да галоўных каштоўнасцяў, вартасцяў, уяўленняў чалавека. І то не ўся.

Што тычыцца Янкі Купалы... Мяне натхняюць яго вершы. Калісьці, калі я яшчэ быў далёкі ад беларускага тэатра і Беларушчыны, вучыўся ў школе ў Зялёным Лузе, я прачытаў яго верш: «А беларусы нікога ж не маюць, няхай жа хоць будзе Янка Купала». Я здзівіўся, а значна пазней зразумеў, што трэба мець нахабства генія, каб так напісаць. А Купала – геній, як і Пушкін. Той пісаў: «Я памятник себе воздвиг нерукотворный, к нему не зарастет народная тропа». І Купала сказаў: я буду першым паэтам Беларусі. Ён быў шляхціц, пан, добра апранаўся, у яго былі манеры. «Наша Ніва», Вільня... Ён і яго сябры былі першымі. Але бальшавікі не далі нікому вырасці, пазабівалі ўсіх, а зараз: «Дзе «Вайна і мір»? Напішыце!» Калі кожныя 20–30 гадоў касіць, то хто паспее вырасці? Ніл Гілевіч напісаў цудоўны верш: «О, як далёка нам яшчэ да Беларусі!». Хочацца, каб хутчэй, але так не бывае.

### Справа ў кантэксце

Нацыянальны тэатр павінен размаўляць мовай народа з народам, гэта месца, дзе вы кожны вечар, апроч панядзелка, публічна чуеце беларускую мову. Гэта галоўная ідэя Купалаўскага тэатра: ментальна адпавядаць нацыі і разбірацца ў яе праблемах.

Рэпертуар. Зараз не так шмат беларускіх п'ес. Я маю на ўвазе не па пашпарце аўтараў-беларусаў, якія пішуць на рускі рынак. Я чакаю беларускую п'есу, якая раскрые сутнасць нацыі. У нас пераважна павінен быць беларускі рэпертуар. Гэта натуральна.

П'есы Дуніна-Марцінкевіча – рэпертуарныя хіты Купалаўскага. На іх ёсць запыт у глядзельнай зале. Маім першым спектаклем была яго «Ідылія». Мабыць, мала хто ведае, што Дунін-Марцінкевіч сядзеў на Валадарцы ў турме, яго абвінавачвалі ва ўдзеле ў паўстанні 1863 года. Не даказалі. Але адправілі пад паліцэйскі нагляд у маёнтак Люцынка (зараз Валожынскі раён).



У жыцці нічога выпадковага не бывае. Я ехаў з Гродна, дзе ў лялечным тэатры рабіў спектакль. Мы з дырэктарам тэатра вяртаемся ў Мінск, і ён кажа: «Давай тут па дарозе заедзем у вёску, там жыве добры мужык, купім у яго цыбулі, сала, вып'ем гарэлкі». Прыехалі. Сядзіць такі Будулай, жыве адзін, без жонкі. Павячэралі, пагаварылі, заваліліся спаць. Раніцай у гаспадара пытаюся: «А дзе мы? Як называецца ваша вёска?» Будулай мне кажа: «Дык Люцынка!» О-па!.. Ён не ведаў, што гэта за вёска. Я ведаў. Але дзе яна на карце, не ўяўляў. Маёнтка Дуніна-Марцінкевіча там даўно ўжо няма.

У п'есах Дуніна-Марцінкевіча справа не ў тэксце, а ў кантэксце. У 1993-м ужо было прадчуванне, што Беларусь будзе іншай. У фінале «Ідыліі» героі садзіліся ў паветраны шар і пад «Паланэз» Агінскага збіраліся ляцець у свет, у цывілізацыю. Яны хацелі новага жыцця, але бралі з сабой лапці, вілы, ручнікі – увесь скарб. Узнімаліся ў вышыню, але шар – ш-ш-ш-ш – лопаўся! Героі п'есы сумна пазіралі на гэта. Тут важны не тэкст, а кантэкст. Бо гэта мы з вамі 25 год таму паспрабавалі ўзляцець у Еўропу з ручнікамі і лапцямі і… Пакуль нічога не атрымалася.

### Пра вышэйшыя сілы

Моцныя жаданні заўсёды спраўджваюцца. Калі ты шчыра крычыш аб іх у «генеральны камп'ютар» і калі гэта яшчэ супадае з Боскімі планамі… О, рыхтуйцеся, яны збудуцца!

Аднойчы я вырашыў, што не хачу тут жыць: мне цяжка стала ў Мінску ў сярэдзіне 1990-х. І праз тыдзень мне пазваніў народны артыст Кірыл Лаўроў. Ён сказаў: «Я хачу вас запрасіць на пастаноўку ў Вялікі драматычны тэатр у Санкт-Пецярбургу». – «Адкуль вы мяне ведаеце?!» – «Ну, мне сказалі…» Ён прыехаў у Мінск на якісьці там юбілей у Саюз тэатральных дзеячаў, і мы з ім хадзілі цэлы дзень, і ўдвух выпілі аж чатыры бутэлькі гарэлкі. Яму тады было 70. Мне – амаль на 30 год менш. Я быў у цяжкім стане, а ён хоць бы што. Сказаў: «Мікалай, трэба паспаць паўгадзіны, у мяне яшчэ мерапрыемства». Савецкая загартоўка! Карацей, Лаўроў запрасіў мяне ў Санкт-Пецярбург. Калі я прыехаў туды, то першае, што пабачыў, была дошка на доме: «Здесь жил Адам Мицкевич». І я сказаў: «Ну, Адаме, і я тут». Набраўся нахабства. Я працаваў у Вялікім драматычным тэатры імя Таўстаногава 13 год. Працаваў з цудоўнымі артыстамі, гэта быў сур'ёзны досвед. Я ўдзячны лёсу.

А цяпер глядзіце: у мяне маці ўкраінка, а бацька рускі, ён прайшоў усю вайну, меў шмат узнагарод. Бацькі працавалі ў Мінску артыстамі. Потым яны былі першымі рэжысёрамі Беларускага тэлебачання, якое стваралася на пачатку 1960-х гадоў. Этнічна ў мяне ў родзе ёсць яшчэ палякі. А беларусаў няма. І хаця каранёў беларускіх няма, з цягам часу я зразумеў, што я беларус. Ментальна. У садок хадзіў у Мінску, школу і інстытут скончыў тут. Працаваў у Купалаўскім тэатры. Калі я гэта зразумеў, я захацеў вярнуцца ў Мінск з Санкт-Пецярбурга. І мне пазванілі і сказалі: «Вяртайцеся ў Купалаўскі!» Прайшло крыху часу, і... я зноў быў у Беларусі. Пачынаўся 2009 год.

Хутка Нацыянальнаму акадэмічнаму драматычнаму тэатру імя Янкі Купалы будзе 100 гадоў. Купалаўскі быў заўсёды тэатрам моцных, сур'ёзных артыстаў, вельмі таленавітых, і я спадзяюся, што гэта традыцыя захавалася. Дай Бог яе захаваць, тут сцены дапамагаюць. Нягледзячы на тое, што яны амаль што новыя пасля рэканструкцыі. Але, як сказана ў адной вельмі старой і вельмі папулярнай кніжцы, «Дух дыхае, дзе хоча».

**Алена МАЛОЧКА.**

**Фота Максіма КАРАСЦЯЛЁВА.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Абараняем, як калісьці, але з таго няма карысці

Гродзенскія памежнікі затрымалі двух грамадзян Манголіі, якія ў пошуках лепшай долі спрабавалі патрапіць у Еўрасаюз.

Яшчэ дагэтуль жне Расія
Няволі горкія плады:
Яе калісьці падкасіла
Нашэсце Залатой Арды.
Усюды заставаўся голы
І непрывабліва пейзаж…
Але зламалі зуб манголы,
Кусnуўшы край ліцвінскі наш.
Забылі, так сказаць, дарогу
Яны да нас з тае пары,
І мы квітнелі, дзякуй Богу.
Калі б не нашы ваяры,
Яны пранесліся б галопам,
Пакінуўшы зямлю пустой,
І ўся заехныла б Еўропа
У Чынгісхана пад пятой.
І сёння, як бы ні хацелі
Макрон і Меркель,
Еўразвяз
Рабіў бы сходкі не ў Брусэлі,
А ў Улан-Батары якраз.
Малюнак быў бы невясёлы…
Мінулі грозныя вякі,
Ды па-ранейшаму манголы
Глядзяць на Захад з-пад рукі.
Не прагнуць больш,
Каб зноў да Рыма
Пайшла ў паход за цьмою цьма.
(Такое проста немагчыма –
Там столькі і людзей няма.)
Яны па два ці тры – не болей
Бягуць да польскае мяжы,
Каб там разжыцца лепшай доляй,
Паесці ўволю хлеб чужы.
Аднак службоўцы з Беларусі
Заўжды, як кажуць, на чаку.
Хіба што толькі ў небе гусі
Ім не трапляюць пад руку.
Для еўрапейцаў, як калісьці,
Мы забяспечваем спакой.
А для саміх ці шмат карысці
Ад пераемнасці такой?
Дык у любога губашлёпа
(А зрэшты, нават і ў мяне)
Пытанне ёсць: калі Еўропа
Даўгі выплачваць нам пачне?..

## Як добра, што гарэза нікога не зарэзаў

Педагогі адной з барысаўскіх школ запрасілі бацьку на пасяджэнне прафілактычнага савета, каб паўшчуваць яго за дрэнныя паводзіны сына-сямікласніка. Бацька пачаў буяніць, брыдка лаяцца, перавярнуў усю мэблю…

Ніхто даць рады хлапчуку
Не мог, бо хуліган адпеты.
На меншых падымаў руку,
Страляў у больших цыгарэты,
На галаве хадзіў смаркач,
Бывала, што зрываў заняткі.
І ўсім настаўнікам хоць плач:
Ён ім грубіў – і ангадкі.
Калі ў настаўнікаў зусім
Змагацца з ім не стала сілы
(Дый у каго хапіла б сіл?),
У школу бацьку запрасілі,
Размову з ім распачалі.
– Хлапчук, – сказалі педагогі, –
Бандытам вырасце, калі
Не будзе вашай дапамогі.
Маўляў, і дзякаю няхай
Павучыць сына-забіяку.
А бацька – гэтакі бугай! –
Сам перайшоў у контратаку,
І пачаў лаяцца з гарляка
Адборнай лаянкі лавіна:
– Замардавалі хлапчука,
Трымаеце ў аглоблях сына!
Ён проста жэўжыкам расце,
Задужа жвавы і рухавы.
Не страшна, што другіх дзяцей
Мутузіць трохі для забавы.
А будзеце перашкаджаць
Майму малому, "педагогі",
Дык я любому з вас, птамаць,
Гатовы тут жа ў рыла даць,
Пераламаць хоць зараз ногі…
Каб даказаць, які ён злы,
У кабінеце школьным бацька
Перакуліў усе сталы
І падфутболіў глобус хвацка.
Дадаў, перш чым пакінуць клас:
– Падзякуйце, што мой гарэза
Не абпляваў нікога з вас,
Тым больш нікога не зарэзаў…

* * *

Сцвярджае мудра наш народ
(І сумнявацца ў тым не трэба),
Што недалёка ўсё-ткі плод
Звычайна падае ад дрэва.
Дык адчуваю я нутром,
Што сын яшчэ пакажа хватку:
У школу прыйдзе з тапаром
Ці прынясе хаця б рагатку.

НЕЛЬЗЯ МОЛЧАТЬ!

## Ноль цена разговорам о малой Родине, если такой вопрос считается неразрешимым

В стране армада чиновников, которые не производят никаких материальных ценностей, порой унижают человека, заставляют его ходить по кабинетам в поисках справедливости.

Ярчайший пример – судьба Зинаиды Тарасевич, которая много лет никак не может исполнить завещание матери – вернуть свою хату, которую когда-то сталинские опричники забрали у их семьи, как у кулаков. Ноль цена разговорам нынешних властей о патриотизме, о малой Родине, если такой вопрос считается неразрешимым. Этим самым высокие чиновники еще раз подтверждают, что человек у нас ничто, что можно безнаказанно уничтожать целые поколения людей.

Поэтому неудивительно, что из нашей страны уезжает молодежь, пустеют деревни. Не менее важно и то, что подрываются моральные устои, вера людей в справедливость.

Читая статью, я подумала: а для чего нужны суды, прокуратура, если они не защищают права человека? Бесконечно ходила Зинаида Тарасевич по разным кабинетам к начальникам высоких рангов, но никто не услышал ее боль, ее желание исполнить завет матери вернуть свою хату.

Спасибо «Народной Воле», что подняла такую жгучую тему.

**Ольга Ивановна ВАРАКСА, ветеран труда.**

*Минск.*

ЗВАНОК У РЭДАКЦЫЮ

## Хто набудзе сядзібу Радзівілаў?

Днямі патэлефанаваў у рэдакцыю наш даўні чытач Іван Сідаравіч Крупенька. Ён пацікавіўся: дык сядзіба Радзівілаў у вёсцы Паланечка Баранавіцкага раёна знайшла новага гаспадара ці не?

І вось учора атрымалі інфармацыю ад БелаПАН: на 29 мая прызначаны паўторны аўкцыён па продажы гэтай знакамітай сядзібы.

На таргі выстаўлена нерухомая гісторыка-культурная каштоўнасць «Будынак былога палаца»: двухпавярховы цагляны будынак 1836 года пабудовы плошчай большай за 1,6 тыс. квадратных метраў, сталовая з трыма прыбудовамі, кацельня. Комплекс аб'ектаў размешчаны на зямельным участку плошчай амаль 3,4 га.

Паводле слоў дырэктара Брэсцкага абласнога тэрытарыяльнага фонду дзяржаўнай маёмасці Паўла Манько, гэта нерухомая маёмасць чацвёрты раз выстаўляецца на таргі па пачатковай цане, паніжанай на 80%. Папярэднія таргі па такой паніжанай цане не адбыліся з-за адсутнасці заявак. Пачатковая цана – 19.210 рублёў 72 капейкі. Сума задатку – 3800 рублёў.

ЗДАРЭННЕ

## Аўтобус з беларускімі турыстамі перакуліўся ў Польшчы

*Пацярпелі 11 чалавек.*

Нашы суайчыннікі вярталіся з Прагі. Паводле папярэдніх дадзеных, кіроўца аўтобуса спрабаваў пазбегнуць сутыкнення з легкавіком, аднак беспаспяхова. Ад удару транспарт сродак з'ехаў у кювет і перакуліўся.

Большасці пасажыраў медыцынская дапамога была аказана на месцы. Двум чалавекам спатрэбілася шпіталізацыя. Турфірма-перавозчык ужо адправіла ў Польшчу аўтобус, які даставіць людзей на радзіму. Паводле інфармацыі МЗС нашай краіны, па дапамогу ў беларускую дыпмісію ніхто з пацярпелых не звяртаўся.




ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## Як пазбавіцца ад старой бытавой тэхнікі?



У рэдакцыю звярнуўся пенсіянер з Мінска **Сяргей Мельнічук** і распавёў пра сваю праблему: *"У мяне ў чарговы раз зламаўся халадзільнік. Да гэтага чатыры разы яго рамантавалі, усё гэта было не вельмі танна. Таму зараз, калі даведаліся, што "паляцеў" матор, вырашылі: больш плаціць за рамонт не мае сэнсу, лепш купіць новы агрэгат. Але вось праблема: што рабіць са старым халадзільнікам? Можа, ёсць нейкія ўстановы, якія могуць забраць тэхніку?»*

ААТ "БелВТІ", якое ўжо больш за 20 гадоў займаецца перапрацоўкай адходаў электрычнай і электроннай тэхнікі, якраз і купляе ў насельніцтва старую бытавую тэхніку. Пункт прыёму ў Мінску знаходзіцца на вуліцы Славінскага, 1.

*"Наша арганізацыя купляе (20 капеек за 1 кілаграм) любую электрычную і электронную тэхніку пры ўмове наяўнасці ўсіх складаючых частак і толькі пры самастойнай дастаўцы яе ў пункт прыёму,* – паведамляецца на сайце кампаніі. – *Халадзільнікі, пральныя машыны і пліты – 25 капеек за 1 кілаграм. Для грамадзян, якія не маюць магчымасці самастойна даставіць тэхніку на перапрацоўку, арганізавана служба "БелВТІ-таксі". Паслуга бясплатная, але без выплат за тэхніку. Нашы работнікі прыедуць да вас у зручны час і самі вынесуць тэхніку з кватэры".*

Нескладана падлічыць: калі вага халадзільніка 80 кілаграмаў, то ў пункце прыёму вам выдадуць 20 рублёў. Але ўлічыце, што пры гэтым тэхніку давядзецца самастойна выцягваць з кватэры, грузіць і везці ў неабходнае месца.

Дарэчы, па рэкламных аб'явах можна знайсці прыватныя фірмы, супрацоўнікі якіх прыедуць дадому і забяруць той жа халадзільнік, заплаціўшы вам 15 рублёў. Таму выбар за вамі.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

АБЗАЦАМ

## Як дзяржава пра нас паклапацілася…

Намеснік міністра працы і сацабароны Аляксандр Румак нядаўна прамовіў: *«Няма нічога ганебнага ў тым, каб дзеці клапаціліся пра сваіх бацькоў...»*

Дзяржава пра нас ужо "паклапацілася": замест годна заробленых сваёй працай пенсій атрымліваем нейкія падачкі. Перад гэтым дзяржава адабрала ў нашых бацькоў банкаўскія ўклады. А цяпер свой клопат пра нас дзяржава ў выглядзе добра ўкормленых чыноўнікаў перакладае на нашых дзяцей…

**Міхаіл ЗАПОЛЬСКІ, пенсіянер.**

ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# З-за мяжы не паўплываеш на беларускія працэсы

Калі б апазіцыя не ўдзельнічала ў выбарах і не праводзіла кампанію назірання, то мы не мелі б карціны таго, як наогул адбываецца волевыяўленне людзей у Беларусі.

Адна справа адмахнуцца і сказаць, што і без таго ведаем, як у нас праходзяць выбары, а іншая справа – узяць у іх удзел, убачыць, што адбываецца насамрэч, зафіксаваць усе магчымыя парушэнні, а таксама стаць сведкам нахабных фальсіфікацый.

Не трэба казаць, што выбары з года ў год адбываюцца аднолькава, – гэта няпраўда. Падчас кожнай кампаніі ўспываюць новыя "фішкі" і пралікі ўлады, якія прынцыпова адрозніваюцца ад папярэдніх.

Але ёсць і тое, што аб'ядноўвае ўсе выбарчыя кампаніі, – гэта адсутнасць адкрытага і галоснага падліку галасоў.

### Чым далей ад Беларусі, тым больш заклікаў да байкоту

Па праўдзе кажучы, непрыжываюць заклікі розных дзеячаў беларускай эміграцыі, якія з-за мяжы спрабуюць уплываць на палітычныя працэсы ў Беларусі і заклікаюць альбо да актыўнага байкоту, альбо да няўдзелу ў выбарах, бо, маўляў, іх, сапраўдных, у краіне проста няма. Аргументуецца такая пазіцыя тым, што любы ўдзел толькі на карысць "крывавому рэжыму" і любы ўдзельнік гэтага працэсу – саўдзельнік злачынства. Але падмацаванне гэтай пазіцыі, якая магла б уплываць на ўсіх – як на ўладу, так і на апазіцыю і беларускі народ, – няма.

У Беларусі, дзякуй Богу, няма радыкальных арганізацый накшталт Ірландскай паўстанцкай арміі ці баскай ЭТА, якія маглі б не толькі словамі, але і дзеяннямі падмацаваць сваю пазіцыю. А паколькі такіх экстрэмісцкіх структур няма, то, спадзяюся, ніколі не ўзнікне ваяўнічая сітуацыя – усё ўпіраецца толькі ў экспертнае трызненне аб тым, што не варта ўдзельнічаць у гэтым "выбарчым цырку".

Ужо многімі заўважана, што чым далей нашы эмігранты знаходзяцца ад Беларусі, тым узровень іх уласнай бяспекі вышэйшы, а пазіцыя – больш радыкальная. І гэта зразумела: ты цяпер не залежыш ад беларускіх чыноўнікаў, цябе не могуць звольніць з працы, адлічыць з універсітэта, аштрафаваць ці кінуць у ізалятар за нейкія выказванні.

Тым жа, хто жыве тут, на радзіме, прыходзіцца зніжаць узровень пратэстнасці і ўводзіць арганізацыйную працу ў рэчышча закона, хай сабе і такога, які не адпавядае міжнародным стандартам і практыкам. Калі гэтага не рабіць, то любая зарэгістраваная арганізацыя неўзабаве ператворыцца ў аргкамітэт, які цалкам вызвалены ад усялякіх абавязкаў перад дзяржавай і не нясе адказнасці перад сваімі сябрамі.

Менавіта лідараў і членаў розных аргкамітэтаў часта можна ўбачыць на вулічных акцыях. А як вядома, аргкамітэт па стварэнні палітычнай партыі ці грамадскай арганізацыі – гэта нішто ў параўнанні з юрыдычна зарэгістраванымі структурамі. Яскравае сведчанне таму – канцэрт ля Тэатра оперы і балета ў Мінску з нагоды абвяшчэння 100-годдзя БНР, заяўку на які падалі кіраўнікі пяці афіцыйна зарэгістраваных арганізацый. Я ўпэўнены ў тым, што калі б гэта зрабілі шараговыя асобы, то яны атрымалі б адмоўны адказ. Сапраўды, якім бы ты важным "паўлінам" ні быў – без юрыдычнага статусу ты просты грамадзянін, ад якога можна і адмахнуцца.

Тым часам апазіцыя дакладна ведае цану нашым выбарам, а таму ніколі іх не называе выбарамі, а выключна – выбарчымі кампаніямі, у якіх яна ўдзельнічае, пераследуючы свае ўласныя мэты – як магчымасць данясення агульнага паслання да выбаршчыкаў, так і ў чарговы раз зафіксаваць той факт, што дэмакратычных выбараў у краіне няма. Выбарчая кампанія – выдатны спосаб мабілізаваць сваіх аднапартыйцаў, прыцягнуць у партыю новых людзей, павялічыць пазнавальнасць сваёй арганізацыі. Што ні кажы, а пры дэмакратыі галоўную ролю будуць адыгрываць палітычныя партыі, а не аргкамітэты, і таму падмурак для свайго электарату варта рыхтаваць нават пры сённяшніх умовах.

### Навошта апазіцыя ўдзельнічае ў выбарах?

Ёсць сцвярджэнне, што без дэмакратычнай апазіцыі, якая пакуль што пры любым раскладзе з'яўляецца для ўлады ўнутраным ворагам, бо прэтэндуе на ўладу і бярэ асноўны ўдар на сябе, рэжым пайшоў бы значна далей і знайшоў бы для шальмавання іншыя групы грамадзян.

Тое, што ўлады перыядычна робяць наступленні то на рэлігійныя канфесіі, то на нацыянальныя меншасці, творчыя саюзы, на дробны бізнес, на беспрацоўных, – гэта толькі сведчанне іх рэпрэсіўнасці. Але калі сярод гэтых груп з'яўляюцца прадстаўнікі дэмакратычных партый, то менавіта яны падвяргаюцца найбольшым рэпрэсіям і адказнасці за сваю салідарнасць з групамі, на якія зрабілі наступленне ўлады. У любым пратэсце крайнімі аказваюцца дэмакраты.

І самае галоўнае. Не праз трызненне асобных прыхільнікаў байкоту і экспертаў адбываецца непрызнанне вынікаў беларускіх выбараў міжнароднай супольнасцю. Гэта ўсё робіць дэмакратычная апазіцыя, высновы якой грунтуюцца на вопыце іх удзелу ў выбарчых кампаніях і звестках іх назіральнікаў. Менавіта апазіцыя пашырае тэрыторыю свабоды беларусаў, востра рэагуе на рэпрэсіі з боку ўлад і ў большасці выпадкаў з'яўляецца для грамадства своеасаблівым маланкаадводам.

### Чаго баіцца рэжым?

У 2018 годзе колькасць кандыдатаў у дэпутаты ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады), Беларускай партыі "Зялёныя", Беларускай партыі левых "Справядлівы свет", Партыі БНФ, а таксама "Руху "За Свабоду" і аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская Хрысціянская дэмакратыя" складала крыху больш за 200 чалавек.

Менавіта гэтыя 200 дэмакратаў прэтэндавалі на дэпутацкія мандаты, аднак у мясцовыя Саветы здолеў патрапіць толькі адзін дэмакрат. Чаму так здарылася? Няўжо ўлада так баіцца апазіцыі?

Адказ на паверхні. Улада баіцца не актывістаў-дэмакратаў, якіх пакуль вельмі мала, а тых ідэй, за якія яны выступаюць і якія яны прапагандуюць, бо, як ні круці, гістарычна перамагае той сацыяльна-эканамічны лад, які паказаў найбольшую прадуктыўнасць працы, і гэтым сучасны рэжым пахваліцца не можа, бо захраснуў у дзяржаўным рэгуляванні эканомікі ды яшчэ спрабуе ўмешвацца і кантраляваць дробны бізнес. Таму любая абгрунтаваная альтэрнатыва сама па сабе небяспечна для сённяшніх улад.

Ёсць яшчэ адно пытанне, якое мае адказ адносна таго, чаму ўлады не хочуць арганізаваць адкрытыя і празрыстыя выбары хай сабе і ў двухстах выбарчых акругах, дзе балатуюцца дэмакраты.

Пытанне ў тым, што баяцца ўлады не дэмакратычных кандыдатаў, а назіральнікаў, якія сядзяць на выбарчых участках і фіксуюць як яўку выбаршчыкаў, так і наяўнасць адкрытага і галоснага падліку галасоў.

Улады рыхтуюць членаў участковых выбарчых камісій па аднолькавай методыцы, і яны проста не ў стане ўгадаць, колькі назіральнікаў і на якіх выбарчых участках выставіць апазіцыя, таму ёй працэй падстрахавацца і навучыць усіх аднолькавай методыцы фальсіфікацый, чым допусціць магчымы збой, які можа паўтарыцца як на парламенцкіх, так і на прэзідэнцкіх выбарах і прывесці да непажаданых для ўлады вынікаў.

### Кароткая выснова

Пакуль у краіне ідзе дыскурс адносна актыўнага байкоту, няўдзелу ці ўдзелу ў выбарах, кожны з гульцоў робіць свой выбар самастойна – апазіцыя ўдзельнічае ў выбарчых кампаніях, беларуская эміграцыя і лідары розных аргкамітэтаў заклікаюць да актыўнага байкоту, а беларускі народ выбірае стратэгію няўдзелу.

Яскравым сведчаннем няўдзелу грамадзян у выбарах (так званае "галасаванне нагамі", калі выбаршчыкі проста не ідуць на выбарчыя ўчасткі) з'яўляецца часам завышаная ўчастковымі камісіямі больш як у 10 разоў яўка выбаршчыкаў. Не было б незалежных назіральнікаў кампаніі назірання "Права выбару" ад апазіцыі – не здолелі б зафіксаваць не толькі гэта, аднак і адсутнасць адкрытага і празрыстага падліку галасоў.

Можна доўга крытыкаваць сённяшнюю апазіцыю, але без яе становішча ў краіне магло б быць яшчэ горшым, а заявы асобных лідараў аргкамітэтаў куды больш папулісцкімі.

**Ігар БАРЫСАЎ, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі.**



ПЕРВЫЕ ЛИЦА

# Вторая – после Тэтчер

1 апреля начался последний (кроме шуток!) год пребывания Великобритании в составе Европейского Союза. Это значит, что оставшееся время переговоров миру предстоит следить за дуэлью двух женщин – Ангелы Меркель и Терезы Мэй.

## Карьера

Тереза Брасье (Мэй – фамилия ее мужа) родилась в октябре 1956 года на юго-востоке Англии. Закончила Оксфорд, получив степень бакалавра географии, двадцать лет проработала в бизнесе – сначала в Банке Англии, потом в Ассоциации по оплате клиринговых услуг. Восемь лет являлась депутатом местного совета в Лондоне (районного совета – сказали бы мы, если бы в Минске по-прежнему были районные советы).

Лишь в 1997 году ее избирают членом палаты общин от Консервативной партии. Для партии это период внутренней борьбы. Ее лидер Джон Мейджор не может совладать с коллегами-евроскептиками, причем прибегает даже к совсем не парламентским выражениям – называет их негодяями. Он уходит в отставку, унося с собой бремя поражений. Проигрыши длятся до 2005 года, пока во главе партии консерваторов не становится молодой и активный Дэвид Кэмерон. Сначала партия выигрывает местные выборы 2008 года, а в 2010-м Кэмерон принимает предложение королевы Елизаветы II возглавить правительство.

12 мая 2010 года депутат Тереза Мэй, до этого активно участвовавшая в теневом правительстве тори, получает сразу два министерских портфеля в кабинете Кэмерона. Первый – портфель министра внутренних дел. Второй – министра по делам женщин и равноправия. Это особенно важный момент: именно Мэй становится движущей силой реформирования законодательства о равноправии британцев вне зависимости от гендерной принадлежности и сексуальной ориентации. На этих постах она демонстрирует главные свои политические качества – умение быть жесткой, волевой и одновременно находить компромиссы с оппонентами. Госпожа Мэй пока не подозревает, насколько ей это пригодится позже. Но то, что она может не поддаваться давлению, Мэй продемонстрировала: хотя англиканская церковь выступала против законов об однополых браках и об амнистии осужденных ранее гомосексуалистов, которые разрабатывала госпожа министр, они все же были приняты.

## Brexit

В 2015 году консерваторы убедительно побеждают на выборах. Если прошлый кабинет был коалиционным, то Кэмерон сформировал однопартийное правительство. Но он обещал провести референдум о пребывании Объединенного Королевства в составе Евросоюза. А обещания в Британии принято выполнять. 23 июня 2016 года состоялся референдум, который поверг в шок самого Кэмерона: британцы проголосовали за выход из состава единой Европы.

Исполнение обещания оказалось непоправимой ошибкой премьера. Кэмерон уходит с поста лидера партии и главы правительства. Его преемницей становится Тереза Мэй.

Это было логично. В палате общин она голосовала против дальнейшей интеграции Объединенного Королевства в состав Евросоюза. Сейчас ей дали возможность реализовать тот план, сторонником которого она являлась.

## Развод в европейской семье

На плечи Терезы Мэй легла ответственность за смягчение последствий принятого избирателями решения. Она должна так провести переговоры с Брюсселем, чтобы получить



максимум льгот для национального бизнеса, и одновременно пойти на минимум уступок в вопросе действия тех законов, которые не устраивают Лондон. Однако для этого в ходе переговоров не столько с официальным Брюсселем, сколько с занявшей жесткую позицию по отношению к «брекзиту» канцлеру Германии Меркель нужен был дополнительный мандат. И Мэй рискнула.

8 июня 2017 года состоялись внеочередные парламентские выборы. Консерваторы победили с минимальным перевесом. Пошли слухи о неизбежности отставки Мэй, о слабости ее политической позиции. Но система государственной власти в Объединенном Королевстве такова, что в данном случае последнее слово оставалось за Елизаветой II. Она позволила Терезе Мэй сформировать кабинет министров.

Премьер-министр начала переговоры – и в какой-то момент стало понятно, что эта женщина обыграет всех. Мэй органически почувствовала, насколько не хочется Европе ссориться с Лондоном. Анонсированные жесткие меры по отношению к «раскольникам» все время откладывались. Европу по-прежнему интересовали британский рынок и британские инвестиции. Да и европейские гастарбайтеры, нашедшие себе место под сумрачным британским солнцем, могли превратиться в серьезную проблему для своих правительств – в случае их выдворения с острова. Мэй тянула время, откладывала принятие решений по частным вопросам – и выигрывала раунд за раундом.

К тому же помог случай.

## Кому яд, а кому – кстати

Если врага нет, нужно просто подождать – он появится сам. Покушение на жизнь бывшего российского разведчика Сергея Скрипаля, получившего британское гражданство, резко сместило акценты в мировой политике. Встал вопрос: в то время как евроатлантическое сообщество борется с терроризмом, кто стоит за новым – хотя совершенно средневековым по способу – видом убийства? Был российский эмигрант Литвиненко, которого демонстративно отравили полонием, отчего Кремль начали обвинять в нарушении конвенции о нераспространении ядерного оружия. А сейчас – не нарушил ли Кремль конвенции о нераспространении и неиспользовании химического оружия?

Если бы Россия не находилась в преддверии президентских выборов, может быть, Лондону и Москве как-то удалось бы понять друг друга и обойтись без решительного скандала. Но Путин решил переизбраться с репутацией «сильного» вождя. Российский МИД начал хамить премьер-министру Великобритании.

Мэй улыбнулась. На ее сторону – нет, не лично Терезы Мэй, на сторону Объединенного Королевства – встали Европейский Союз, США, Канада, Австралия. Женщина, державшая в руках яблоко раздора, вдруг – спасибо Путину! – заставила западный мир забыть о разногласиях. Вопросы безопасности оказались важнее.

## Женщина? Песня!

Ее сравнивают с другими женщинами в политике. Нет, конечно, Ее Величество Королева – вне сравнений. Но у Меркель госпожа Мэй выигрывает. Она более раскрепощенная, улыбчивая, ироничная. Она модница – в отличие от канцлера, которая прикипела душой к одним и тем же фасонам и моделям обуви и сумочек. Она в меру кокетлива. Ее достоинства очевидны, а о ее недостатках знают очень немногие: муж, коллеги по правительству и парламенту, королева, а также журналисты, таксисты, домохозяйки – одним словом, весь Лондон и весь мир. У нее есть шанс убедить всех в том, что достоинств все-таки больше.

Пока же Тереза Мэри Мэй готова считать себя второй. Второй женщиной – премьер-министром Великобритании после великой Маргарет Тэтчер. Планка задана: есть на кого равняться.

**Александр ФЕДУТА.**

НАВІНЫ ГЕРМАНІІ

***

Ангела Меркель стала рэкардсменам па паездках за мяжу сярод кіраўнікоў пасляваеннай Германіі. Пра гэта распавядае адно з найбольш уплывовых германскіх выданняў – славуты Bild. За 12 гадоў яна выязджала з краіны па службовай неабходнасці 419 разоў; дарэчы, часцей за ўсё яна наведвала Францыю. На другім месцы, згодна з падлікамі, знаходзіцца яе папярэднік Герхард Шродэр, і толькі на трэцім – Гельмут Коль.

***

Найбольш дарагой з германскіх кампаній названа фірма SAP, якая займаецца вытворчасцю камп'ютарнага забеспячэння. Яе біржавы кошт ацэньваецца сёння прыкладна ў 104 мільярды еўра. Паказальна, што ў рэйтынгу SAP абышла славуты машынабудаўнічы канцэрн Volkswagen (84,6 мільярда еўра) і фірму па вытворчасці электратэхнікі Siemens (94 мільярды еўра).

***

Нямецкія самалёты-знішчальнікі Tornado могуць быць зняты з узбраення НАТА. Сёння менавіта яны складаюць большую частку авіяцыі Паўночнаатлантычнага альянсу, але ж, як сцвярджае Міністэрства абароны ФРГ, у іх назіраюцца праблемы з бяспекай сувязі. Існуе рэальная небяспека перахопу інфармацыі "трэцімі краінамі". Хутчэй за ўсё, у ліку апошніх маюць на ўвазе Расію, кіберпатэнцыял якой пасля мінулых прэзідэнцкіх выбараў у ЗША дэманізуецца на Захадзе.

***

Міністр сацыяльнага забеспячэння Хубертус Хайль паведаміў, што працягваецца ўніфікацыя памеру пенсій паміж заходнімі і ўсходнімі федэральнымі землямі Германіі. Да канца года пенсіі павысяцца на 3,2% на Захадзе Германіі і на 3,4% на Усходзе. Падставай для гэтага стане рост германскай эканомікі і паляпшэнне сітуацыі на рынку працы ў краіне.

***

Два пашуковыя сабакі, якія стала працуюць у міжнародным аэрапорце Франкфурта, дапамаглі выкрыць мужчыну і жанчыну з Бразіліі, якія спрабавалі правезці ў Германію 10 кілаграмаў какаіну ў двух валізках на колах. Аптовы кошт затрыманага наркарэчыва ацэньваецца ў 370 тысяч еўра.

***

Федэральнае агенцтва па сельскай гаспадарцы Германіі паведаміла, што кожны жыхар краіны ў сярэднім з'ядае 231 яйка ў год. Агенцтва таксама абвергла інфармацыю аб тым, што халестэрын, які ўтрымліваецца ў яйках, нібыта можа сур'ёзна паўплываць на здароўе чалавека. Медыцынскія эксперыменты пацвердзілі, што ўжываць менш як трэба толькі дыябетыкам і людзям, якія пакутуюць на ішэмічную хваробу сэрца.

***

Новы кіраўнік знешнепалітычнага ведамства Германіі Хайка Мас заклікаў ААН даць ФРГ месца сябра Рады Бяспекі арганізацыі. Паводле слоў спадара Маса, Берлін гатовы ўзяць на сябе больш адказнасці за сітуацыю ў свеце. Германія пакуль не прэтэндуе на статус пастаяннага сябра Рады Бяспекі, задавальняючыся тым, што атрымае статус часовага сябра на 2019 і 2020 гады. Разам з ФРГ сёння ў конкурсе на квоту, выдзеленую для краін Заходняй Еўропы, удзельнічаюць таксама Бельгія і Ізраіль. Лічыцца, што пакуль менавіта Германія з'яўляецца фаварытам.

РЭДКІЯ ЛЮДЗІ

# Самая прыгожая грэшніца

Юбілей адной з найпрыгажэйшых жанчын свету – зоркі сусветнага кіно Клаўдыі Кардынале, якой 15 красавіка споўніцца 80 гадоў, – рыхтуюцца адзначыць у Італіі. 2 красавіка ў Мілане ў Інтэрактыўным музеі кіно пачаўся фестываль у яе гонар. У праграму фэсту ўваходзіць прагляд фільмаў мэтраў кінематографа, у тым ліку Федэрыка Феліні і Лукіна Вісконці. Кардынале здымалася ў такіх славутых фільмах, як "Рока і яго браты", "Ружовая пантэра", "Восем з паловай", "Леапард", "Сямейны партрэт у інтэр'еры", "Ісус з Назарэта", "Фіцкаральда", "Агульнае пачуццё сораму", "Французская рэвалюцыя", "Бітва трох каралёў". За заслугі ў галіне кінамастацтва актрыса ўзнагароджана званнямі Вялікага



афіцэра ордэна "За заслугі перад Італьянскай Рэспублікай" і камандора французскага ордэна Ганаровага легіёна.

У 1960-я гады Кардынале лічылася іконай стылю. Гэту жанчыну, якая нарадзілася ў Тунісе, любілі амаль усе мужчыны свету – але ж, зразумела, далёка не кожны з іх мог пахваліцца ўзаемнасцю. Яна была двойчы замужам, мае сына і дачку.

Будзем спадзявацца, што надыходзячы юбілей дасць добрую нагоду ўсім гледачам успомніць таленавітую актрысу, якая пакінула такую яскравую старонку ў гісторыі сусветнага кіно, і яшчэ раз сказаць ёй словы любові і ўдзячнасці.



НА ДАЛОНЯХ ВЕЧНАСЦІ

Анатоль БУТЭВІЧ

# З роду Гальшанскіх




Каб хто толькі ведаў, як трапятала сэрца сямнаццацігадовай Соф'і Гальшанскай, калі ў лютым 1422 года яна стаяла пад велічнымі скляпеннямі Навагрудскага касцёла. Ярка гарэлі свечкі, урачыста гучалі святыя песнапенні, на ўсю моц званілі званы. Поруч з князёўнай стаяў сямідзесяцігадовы Ягайла. Калісьці ён быў вялікім князем літоўскім і жыў у Крэве – непадалёк ад Гальшанскага замка. Сёння ж Ягайла – кароль польскі і ў былую першую сталіцу Вялікага Княства Літоўскага прыехаў павянчацца са сваёй абранніцай.

Не ад таго лякалася Соф'я, што муж вельмі стары. Не баялася, што давядзецца пакінуць маці, сясцёр, дзядзьку Сямёна Друцкага, у якога пасля смерці бацькі Андрэя Гальшанскага яны выхоўваліся. Не тое палохала, што шлюбавалася з прадстаўніком старадаўняй і магутнай дынастыі Гедымінавічаў. Адчувала адказнасць перад заснавальнікамі свайго роду...

Пасля смерці Свінтарога на вялікі пасад літоўскі, жамойцкі, навагародскі і рускі заступіў яго сын Скірмант. Скірмантаў сын Гілігін княжыў на зямлі літоўскай і рускай, пакуль не памёр. Затым княжыць пачаў Гілігінаў сын Раман. Калі Раман памёр, разышліся пяць яго сыноў княжыць у розных землях. Сярэдні Гальшан (Гольша) пайшоў за раку Вяллю. Гэта і быў той далёкі продак, якому зямля гальшанская сваёю назвай абавязана. Сярод прыгожых гор знайшоў Гольша гару найпрыгожую, што над ракою Вільняй. Збудаваў там горад і назваў яго сваім імем – Гальшаны.

А калі ехаў аднойчы на ловы, убачыў у пушчы гару яшчэ больш прыгожую ды велічную. І спадабалася яму, і пасяліўся ён там, і на той гары над ракою, што Каралём называлася, учыніў горад. І перанёсся туды, і там пачаў княжыць. І назваўся князем Гальшанскім…

Так паведамляе пра заснаванне Гальшанаў у XIII стагоддзі і паходжанне князёў Гальшанскіх Хроніка Быхаўца. Дарэчы, сынам Гольшы быў Альгімонт, таму ўсе князі роду Гальшанскіх называліся Альгімонтавічамі.

Лёсы прадстаўнікоў роду цесна перапляліся з іншымі. Вялікі князь літоўскі Вітаўт, напрыклад, меў за жонку дачку Івана Альгімонтавіча Уляну. Гэта Вітаўт высватаў для Ягайлы Соф'ю Гальшанскую. І нічога, што чацвёртая жонка ў караля, бо ранейшыя памерлі. Затое менавіта беларусінка нарадзіла сыноў Уладзіслава і Казіміра, якія сталі першымі ў дынастыі Ягелонаў. Гэтай дынастыі належалі каралеўскія пасады ў Польшчы, Венгрыі і Чэхіі.

А яшчэ раней, калі польскія паслы прапанавалі Ягайлу за жонку маладзюткую і самую прыгожую ў Еўропе каралеву польскую Ядвігу, на агледзіны ў Кракаў выправіўся Соф'ін дзед Іван Гальшанскі. Не ведаў ён, што тым самым пракладвае дарогу ў польскую сталіцу і сваёй унучцы. Бо гэта яго сын Андрэй Вязынскі быў жанаты з друцкай князёўнай Аляксандрай Дзмітраўнай. У іх было тры дачкі.

Старэйшая Васіліса выйшла замуж за князя Івана Бельскага, дачка якога Тацяна Гальшанская была першай жонкай Канстанціна Іванавіча Астрожскага, сярэдняя Соф'я – за Ягайлу. Меншая Марыя стала жонкай малдаўскага гаспадара Эліяша. Іван Гальшанскі меў за жонку дачку князя Міхаіла Чартарыйскага. Ён уваходзіў у Раду ВКЛ, быў першым кіеўскім ваяводам. У 1390 годзе ўзначальваў пасольства, што адвозіла ў Маскву дачку Вітаўта Соф'ю, якую сын князя Дзмітрыя Данскога вялікі князь маскоўскі Васіль выбраў сабе за жонку.

Сямён Іванавіч Гальшанскі быў намеснікам Вітаўта ў Вялікім Ноўгарадзе. Кажуць, за тое, што кіраваў надта жорстка і сурова, яго назвалі Лютым. А мо за тое, што браў актыўны ўдзел у барацьбе Свідрыгайлы і Жыгімонта Кейстутавіча за вялікі пасад у Княстве? Ці мо з-за таго, што ў 1432 годзе ў Ашмянах рыхтаваў змову супраць вялікага князя літоўскага Свідрыгайлы? Ды не ўдалося задуманае. Схапілі змоўшчыкаў, пакаралі, Сямёна Лютага ўтапілі ў Заходняй Дзвіне ля Віцебска. А вось у Іванавага сына Аляксандра не склалася адносіны з Вітаўтам. Уцёк ён у Масковію, атрымаў там у валоданне Пераяслаў. А разам з гэтым і прозвішча Нялюба. Мо за тое, што неўзлюбіў сваю родную зямлю?

Пачынальнік галіны князёў Гальшанскіх-Дубровіцкіх унук Сямёна Лютага Іван Юр'евіч у 1481 годзе быў пазбаўлены жыцця за ўдзел у змове супраць вялікага князя літоўскага Казіміра Ягелончыка. А ягоны бацька Юрый быў сярод тых, хто калісьці насуперак жаданню польскага караля арганізаваў абранне Казіміра на гэты высокі пасад. Унук Івана Юр'евіча, сын Юрыя Іванавіча князь гальшанскі і дубровіцкі, стольнік літоўскі Сямён Дубровіцкі, які памёр у 1556 годзе, стаў апошнім прадстаўніком роду па мужчынскай лініі. Гальшаны перайшлі да Сапегаў. Род Гальшанскіх дажывала сама мала 177 гадоў.

Аднак не падумайце, што адно ваявалі і гінулі Гальшанскія. Гэты старажытны праваслаўны княскі род герба «Гіпацэнтаўр» быў магутным і знакамітым у Вялікім Княстве Літоўскім. Ягоныя прадстаўнікі займалі высокія дзяржаўныя пасады, выконвалі пасольскія функцы, былі прыхільнікамі навук. Да Сабору беларускіх святых залічана Юліянія, дачка Юрыя Сямёнавіча. Яна памерла ў 16 гадоў і пахавана ў Кіева-Пячэрскай лаўры, якую падтрымлівалі многія Гальшанскія.

ДУХОЎНАЯ ПОВЯЗЬ

# Дабрасельцы – радзіма прэзідэнта БНР

*У вёсцы Дабрасельцы Зэльвенскага раёна не быў ужо 6 гадоў. Так хутка бяжыць час, што, здаецца, зусім нядаўна наведваў гэту далёкую зэльвенскую вёску. Напярэдадні 100-годдзя Беларускай Народнай Рэспублікі вырашыў зноў завітаць у Дабрасельцы, дзе нарадзіўся і пэўны час жыў актыўны палітычны дзеяч у перыяд станаўлення беларускай дзяржаўнасці, чацвёрты прэзідэнт Беларускай Народнай Рэспублікі Васіль Іванавіч Захарка (1877–1943).*

## Згубленая памяць

Перш чым завітаць у Дабрасельцы, вырашыў спыніцца ў Зэльве. Прайсціся па вуліцах райцэнтра, пацікавіцца: а раптам хто памятае свайго знакамітага земляка? Дарэчы, тут ёсць нямала людзей з прозвішчам Захарка.

Па вуліцы Савецкай накіроўваюся да Свята-Траецкай царквы. Сустрэчным задаю адно і тое ж пытанне: "Вы можаце што-небудзь расказаць пра Васіля Захарку?" На жаль, усе толькі паціскаюць плячыма: маўляў, нічога не ведаем. Праз сотню-другую крокаў заўважаю на цвінтары царквы бюст паэткі і змагаркі Ларысы Геніюш (1910–1983). У самой царкве – мемарыяльная шыльда ад удзячных нашчадкаў на 90-я ўгодкі паэткі. Ёсць тут і музейны пакой Ларысы Геніюш.

Насупраць царквы – дом, дзе жылі Ларыса і Янка Геніюшы. У 2010 годзе да 100-годдзя паэткі дэмакратычная грамадскасць спрабавала адкрыць на доме мемарыяльную шыльду, але мясцовыя вертыкальшчыкі не дазволілі. І хоць шыльда ўжо была прымацавана да сцяны дома, яе сарвалі і адвезлі ў Зэльвенскі РАУС. Праз пэўны час мы з Міхасём Скоблам яе адтуль забралі. Хочацца верыць, што надыдзе час – і гэта шыльда вернецца на сваё дастойнае месца.

## З успамінаў Ларысы Геніюш

Чаму я выйшаў на сялібу Ларысы Геніюш? Ды таму, што яна была сваячніцай Васіля Захаркі. Праўда, многія думалі, што Геніюш – пляменніца Захаркі, але гэта не так. Хаця заўсёды Ларыса Геніюш Васіля Іванавіча называла проста дзядзька Васіль ці дзядзька Захарка. У сваёй кнізе «Споведзь» Ларыса Геніюш успамінае: *"З дзядзькам Васілём жылі мы вельмі дружна. Старэнькі любіў заехаць да нас. Ён не спадзяваўся, што з ганарыстага маяго Янкі будзе такі добры муж. Цешыўся гэтым. Янка цікавіўся болей літаратурай і прыгожымі дамамі й зусім мала палітыкай, а дзядзька Васіль толькі палітыкай…"*(Ларыса Геніюш. Споведзь. Мінск, 1993. С. 35).

Далей у "Споведзі" Ларысы Геніюш – самыя сумныя радкі ўспамінаў: *"Дзядзька Васіль захварэў на лёгкія. Пад сакрэтам сказала мне пані Крэчэўская, што ягоны нейкі вельмі падазроны кватарант парнуў яго ў бок нажом… З якой прычыны – магу толькі дадумацца сяньня, калі болей ведаю "мэтады". Дзядзька адмовіўся ад варункаў, якія яму давалі немцы, і яму, і Беларусі, і дрыжучы даставаў дапамогу ад Чырвонага Крыжа й чакаў нядобрага. Ратавала яго, як і доктара Градзіла, радыё. Дзядзька быў дэмакрат, і аператыўнае мудрае Бі-Бі-Сі толькі яго й трымала на духу. Ён вельмі баяўся, каб якія самазваныя фюрэры не паявіліся ў нас і не павялі дрэнна палітыкі. Ён пазнаў немцаў і сказаў мне так: "Няма ў нас выбару: альбо – альбо. Калі выйграюць немцы, дык вынішчаць усіх нас, калі выйграюць саветы, дык вынішчаць інтэлігенцыю й асымілююць народ. Але гэта лепей, чымсьці сьмерць усяго народу… Трэцяга выхаду няма…". У Богніцах за Прагаю ў санаторыі для цяжкахворых туберкулёзам дажываў свой век Васіль Іванавіч Захарка. Толькі я ад яго вярнулася, як за пару дзён атрымала ад яго паштовую картку, запырсканую крывёю. Прасіў мяне: "Донечка, хутчэй прыязджай" і г. д. Прыехала якраз і пані Крэчэўская, якая сказала мне, што дзядзька вельмі аслаб, у яго горлам кінулася кроў, і ён неадкладна хоча мяне бачыць. Дзядзька даўно ўжо прасіў мяне, каб я часцей да яго наведвалася, ён баяўся іншых людзей, нікога не хацеў бачыць. Дзядзька быў накрыты сваёю коўдраю, белая наўлечка якой была ўся ў крыві. Ён сказаў мне, што прыходзіць канец яго жыцьця, што ён быў адным з тварцоў акту Дваццаць Пятага Сакавіка 1918 года, пасьля сьмерці А.Крэчэўскага зьяўляецца Старшынёй БНР і, як выбраны народам сябра ўраду, адыходзячы, хоча перадаць свае паўнамоцтвы дастойнаму чалавеку. Што рабіць? Няма адпаведнага чалавека, ёсьць толькі такая жанчына, а жанчына ня можа быць прэзідэнтам. Што ж, гэта быў 1943 год… Не, кажу, так рабіць нельга! Нельга браць у магілу ідэі незалежнасці нашага народу! "Нікому ня веру, донечка. Ёсьць многа людзей, але ў кожнага на некага арыентацыя, а тут трэба быць верным толькі народу. На гэтае становішча я мог бы паставіць толькі цябе, каб ты не была жанчынай". Тады я запрапанавала Абрамчыка. Я доўга даказвала дзядзьку ўсю паважнасьць, прадбачлівасьць і любоў да Беларусі гэтага чалавека. Я толькі не сказала, што Мікола крыху замяккі, крыху задобры, каб стаць на такое змаганьне. Мікола ведаў мовы, вельмі добра арыентаваўся ў палітыцы, ненавідзеў немцаў, умеў выкарыстаць любую нагоду, каб толькі нешта вартаснае зрабіць для Беларусі. Дзядзька папрасіў падаць яму папер. Я паправіла яму падушку, ён сеў і пачаў пісаць тэстамэнт, які прасіў мяне перапісаць у трох экзэмплярах на машынцы й назаўтра яму прынесьці. Пані Косач-Шыманоўская, сястра Лэсі Украінкі, хораша перапісала мне гэты тэстамэнт, і назаўтра дзядзька Васіль падпісаў іх, яшчэ паправіўшы дробныя памылкі. У тэстамэнце Мікола Абрамчык назначаўся Прэзідэнтам Беларускай Народнай Рэспублікі, Ларыса Геніюш – Генеральным Сакратаром БНР. На нас абаіх пераходзіў архіў БНР, які быў у кватэры дзядзькі Васіля… Я была радая хоць тым, што Мікола мог яшчэ ўбачыць дзядзьку й з яго ўласных рук атрымаць гэты дакумент. Першы экзэмпляр далі мне, другі Міколу, а трэці пакінуў сабе дзядзька Васіль. Ніхто пра гэта нічога не ведаў, усё рабілася тайна… Спакавалі мы з Міколам пару чамаданаў нашага дзяржаўнага архіву, і ён павёз гэта ўсё да сябе з думкай усё гэта перапраявіць у Францыю. Я й да сёньня ня ведаю, як яму й ці яму гэта ўдалося… А дзядзька згасаў з кожным днём. 13 сакавіка 1943-га года ў нядзелю я наведала яго. Заўважыла, што яго перавялі да найцяжэйшых хворых. Ляжаў ён жоўты, слабы. Хацеў, каб падалі яму судна. Я папрасіла, каб не ўстыдаўся мяне, ён ужо мала на што рэагаваў. Прасіў толькі, каб я так хуценька не хадзіла, каб крыху прысела ля яго. Аддаў мне свой экзэмпляр тэстамэнту й папрасіў, каб гадзіньнік яго я пакінула сабе. Я яму абяцала гэта. Мы разьвіталіся…"*(Ларыса Геніюш. Споведзь. Мінск, 1993. С. 53–61).

14 сакавіка 1943 года Васіля Захаркі не стала. Пахаванне яго адбылося на Альшанскіх могілках у Празе, якая была акупавана немцамі. Развітацца з прэзідэнтам Рады Беларускай Народнай Рэспублікі прыехалі дэлегацыі ад розных народаў. Але сказаць развітальнае слова ім гестапа забараніла. Таму атмасфера ў гэты час была надзвычай цяжкая. Яна больш згусцілася, калі пачалі труну апускаць у магілу. У гэты момант інжынер Мікола Абрамчык, ужо прэзідэнт Рады БНР, усё ж прайшоў да магілы і выступіў з невялікай прамовай. Пасля яго некалькі слоў сказаў і прадстаўнік ад украінскай моладзі. А ўкраінскі прафесар Мазепа вымавіў толькі адзін сказ: «Нічога, мы шчэ будэмо маты оказыю промовіты іншым разом». Больш за ўсіх шкадавала дзядзьку Васіля Ларыса Геніюш. Калі пачалі засыпаць магілу, яна самлела.

Смерць Васіля Захаркі выклікала вялікі рэзананс у Еўропе. Але нямецкая цэнзура не дазваляла друкаваць у газетах артыкулы-некралогі, а таксама кантралявала, каб гэтая сумная вестка не дайшла да Беларусі. Але часопіс "Новы шлях" (1943, №8) на старонцы 15 апублікаваў некралог "Памяці В.Захаркі" і здымак. Некралог пачынаўся так: *"14-га сакавіка бягучага году ў Праскай санаторыі для сухотнікаў на 66 годзе жыцьця памёр стары беларускі дзеяч, член эміграцыйнага Беларускага Ураду Васіль Захарка. Ад 1928 году, пасьля сьмерці старшыні Рады Беларускае Народнае Рэспублікі Пётры Крэчэўскага, Васіль Захарка, як заступнік старшыні Рады БНР, абараняў і рэпрэзэнтаваў інтарэсы Беларускага Народу перад міжнароднымі ўстановамі. У шматлічных нотах і мэмарандумах, а таксама і ў друку асьвятляў ён ганебныя мэтады ўціску беларускага народу, робленыя ў Заходняй Беларусі палякамі, а ў Цэнтральнай і ў Усходняй Беларусі бальшавікамі… і г.д."*.






## З біяграфіі

Васіль Захарка нарадзіўся 1 красавіка 1877 года. Маладыя гады былі вельмі цяжкімі. Хлопец хацеў вучыцца, а грошай не хапала, бо бацькі-сяляне былі бедныя. Калі юнаку споўнілася шаснаццаць гадоў, памерлі маці і бацька. Васіль Захарка застаўся круглым сіратою, маючы пад сваёй апекаю сястру і двух братоў. Летам ён вёў гаспадарку, а зімою спрабаваў вучыцца. У 1895 годзе хлопец з Дабрасельцаў вытрымаў экзамены на настаўніка царкоўнапрыходскай школы і нават атрымаў працу. Але тады ў гэтых школах настаўнікам плацілі вельмі мала, таму праз два гады Васіль звольніўся з працы і ўладкаваўся пісарам. У сярэдзіне кастрычніка 1898 года Васіля Захарку забралі на вайсковую службу. Чатыры гады ён вучыўся ў ваенна-юнкерскім вучылішчы, а пасля звольніўся як афіцэр запасу. Але з пачаткам руска-японскай вайны яго зноў забралі на вайсковую службу. За час службы вайсковец з Зэльвеншчыны набраўся добрага вопыту. У 1906 годзе ён быў справаводам брыгады, у 1914 годзе – памочнікам начальніка службы забеспячэння харчаваннем арміі Паўночна-заходняга фронту, у 1916 годзе – загадчыкам канцылярыі штабу 10-й арміі, а з красавіка 1917 года – намеснікам старшыні ваеннага суда штаба 10-й арміі…

У канцы кастрычніка 1917 года Васіль Захарка вярнуўся ў Мінск і ўзяў актыўны ўдзел у арганізацыі з'езда беларускіх вайскоўцаў Заходняга фронту, а пасля стаў сакратаром Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Рады. У снежні 1917 года ў Мінску адбыўся Першы Усебеларускі кангрэс, дзе спадар Захарка быў абраны сябрам Рады. Калі Кангрэс пачалі разганяць бальшавікі, ён трапіў у палон. Уцёкшы з палону, Васіль Захарка пачаў разам са сваім сябрам Кастусём Езавітавым арганізоўваць збройнае паўстанне супраць бальшавікоў. 19 лютага 1918 года Менск быў ачышчаны і ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі выйшаў з падполля… У першым урадзе БНР Васіль Захарка займаў пасаду дзяржаўнага скарбніка, а пасля меў розныя пасады ў міністэрстве. У 1919 годзе прэзідэнтам Рады БНР быў абраны Пётр Крэчэўскі, а яго намеснікам стаў Васіль Захарка. 2 чэрвеня 1920 года, калі бальшавікі выказалі жаданне весці перамовы з урадам БНР, Васіль Захарка быў прызначаны гэтым урадам старшынёй Надзвычайнай беларускай дыпламатычнай місіі. Але, не дамовіўшыся з бальшавікамі, Захарка вяртаецца з Масквы і вядзе далейшае змаганне за незалежнасць Беларусі. У сакавіку 1928 года памірае прэзідэнт Рады БНР Пётр Крэчэўскі. Новым прэзідэнтам Беларускай Народнай Рэспублікі становіцца Васіль Захарка. Гэта быў нялёгкі час як для прэзідэнта, так і для Беларусі.

Заўважым: з утварэннем СССР новаму прэзідэнту са сваёй канцылярыяй прыйшлося эмігрыраваць. Васіль Захарка пасяліўся ў сціплай хатцы ў ваколіцы Прагі, хоць чэшскі ўрад з прызнаннем СССР прыпыніў афіцыйныя дыпламатычныя стасункі з БНР. Але прэзідэнт Васіль Захарка не падаў духам і не паддаваўся на розныя правакацыі. Ён, дарэчы, адхіліў таксама ўсе прапановы наконт супрацоўніцтва і з немцамі…

## Дабрасельцы

З Зэльвы еду ў накірунку Ваўкавыска. Праехаўшы некалькі кіламетраў зварочваю направа на вёску Холстава. Пасля Холстава будуць яшчэ Янаўшчына, Тулава, Міжэрычы, Рудзевічы, а потым ужо Дабрасельцы – вёска, дзе нарадзіўся Васіль Захарка. Да сённяшніх дзён у вёсцы Дабрасельцы пражывае шмат сем'яў з прозвішчам Захарка. І некаторыя з іх з'яўляюцца далёкімі і блізкімі сваякамі Васіля Захаркі.

Шмат Захаркаў знайшлі свой апошні спачын на вясковых могілках у Дабрасельцах. Амаль на палове магіл помнікі з прозвішчам Захарка. Ёсць там і сваякі Васіля Іванавіча. Пра гэта нагадала мне ў Дабрасельцах праўнучка Захаркі **Валянціна Іванаўна Быкава**. *"Добра было б якую шыльдачку паставіць на могілках, што тут пахаваны пляменнікі і ўнукі Васіля Іванавіча. Усё ж ён вялікая асоба ў маштабах нашай краіны. Але пра яго тут мала хто ведае, хаця Захаркаў у нас шмат"*, – сказала Валянціна Іванаўна.

Вёска Дабрасельцы, дзе нарадзіўся чацвёрты прэзідэнт Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, – глыбінка Зэльвенскага раёна, ад райцэнтра да вёскі каля 20 кіламетраў. У канцы XIX стагоддзя вёска і маёнтак былі ўласнасцю Ігната Шырмата, які меў 799 дзесяцін зямлі. На пачатку XX стагоддзя ў Дабрасельцах жылі каля 400 чалавек. Але з кожным годам вяскоўцаў станавілася ўсё менш і менш: у 1971 годзе іх жыло 288, у 2003 – 161 жыхар, а цяпер, паводле слоў вяскоўцаў, чалавек 80. Паміраюць людзі, асабліва мужыкі.

## Сваякі Васіля Захаркі

Калі я шэсць гадоў таму быў у Дабрасельцах, то ў пошуках слядоў Васіля Захаркі мне дапамагла **Вера Іванаўна Міхальчык** – родная сястра Валянціны Іванаўны. Тады мяне сустрэла невялікага росту бабуля, жвавая, зацікаўленая і гаваркая. Павітаўся і сказаў жанчыне мэту свайго візіту ў Дабрасельцы. Вера Іванаўна ўзрадавалася, запрасіла ў хату і распавяла, што ведае, пра Васіля Іванавіча Захарку.

– Мама мая Васілю Захарку была блізкай сваячкай, – расказвала падчас першай сустрэчы Вера Іванаўна. – Пры маёй памяці ён у Дабрасельцы прыязджаў два разы, але я яго не бачыла. Адзін раз, калі ён прыязджаў, я хварэла. Але я яму пісала лісты, дарослыя дыктавалі, а я пісала. Я вучылася ў царкоўнапрыходскай школе, пісаць і чытаць умела. А вось жонку яго Пелагію бачыла некалькі разоў, яна родам з суседняй вёскі Бязводна…

Цяпер сустрэцца з Верай Іванаўнай Міхальчык мне не ўдалося. За гэтыя шэсць гадоў яна пахавала двух сваіх сыноў і цяпер цяжка хварэе. Хата яе на замку. Таму пра ўсё я пытаўся ў роднай сястры Веры Міхальчык – Валянціны Іванаўны.

**– А дзе яго была хата, дзе ён жыў?** – пытаюся ў жанчыны.

– Побач з нашай хатай, дзе жыве сястра. Нумар дома сястры 15. Там асобная вуліца, якую вяскоўцы называюць Куток, а тут, каля крамы, – Сяло. Вось там і стаяла хата Захаркаў. Але хаты той даўно няма, толькі месца засталося, дзе яна стаяла.

**– Спадарыня Валянціна, а ці ёсць у вас здымкі Васіля Захаркі?**

– Былі два, але забрала дачка. Яна жыве ў Маладзечанскім раёне. На адным – Васіль Захарка з жонкай Пелагіяй. Ён сядзіць, а яна стаіць побач з ім, паклаўшы руку яму на плячо. Здаецца, здымак быў зроблены ў 1920-х гадах. І на другім здымку – Васіль Захарка ў Коўне.

## Шыльда на месцы, дзе стаяла хата Васіля Захаркі

Я сеў у машыну і паціху з горкі па гразкай вуліцы паехаў у вясковы Куток. Паехаў туды, дзе стаяла хата Васіля Захаркі. Да самага месца пад'ехаць не змог, бо дужа вузкая вуліца. Выйшаў з машыны і пакрочыў далей пешшу. Калі падышоў бліжэй да таго месца, дзе стаяла хата, – здзівіўся. На зарослым травой і закіданым смеццем фундаменце збоку ўбачыў шыльдачку: **"Тут стаяла хата прэзідэнта БНР Васіля Захаркі (1877–1943)".** Хто паставіў шыльдачку – мне даведацца не ўдалося. Тым больш у Кутку шмат пустых хат, людзей там у поўдзень сустрэць і пагутарыць не ўдалося…

Самога Васіля Захарку на Альшанскіх могілках у Празе пахавалі побач з яго жонкаю Пелагіяй (Палінай) Захарка. Магіла, дарэчы, была загадзя закуплена і разлічана на дваіх. Да помніка з выяваю Пагоні, які паставіў Васіль Іванавіч сваёй жонцы, пазней прымацавалі толькі шыльдачку з прозвішчам Васіля Захаркі.

…Калі я пакідаў Дабрасельцы і вяртаўся ў бок Зэльвы, падумалася, што ўсё ж некалі надыдзе час, калі чацвёртаму прэзідэнту Беларускай Народнай Рэспублікі паставяць у Зэльве помнік. Яго імем будуць названы вуліцы, а ў Дабрасельцах з'явіцца і музей Васіля Захаркі. Эх, дажыць бы…

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

**Фота аўтара і з архіва аўтара.**

ФАКТ

# Падарыў станцыю…

У Гродне з'явілася яшчэ адна станцыя сілкавання для электрамабіляў. Гэта адна з чатырох станцый, што падарыў гораду леташні ўдзельнік фестывалю SunDay Autogrodno Томас Кальвас з Германіі. Яго Opel Ampera-e стаў першай машынай, што выпрабавала на сабе працу новай станцыі.

Журналістам Томас расказаў, што электрамабілі – гэта ягонае хобі, і, укладаючы сродкі ў развіццё інфраструктуры, ён хоча забяспечыць больш камфортныя ўмовы для падарожжаў і матываваць іншых да асваення электрамабіляў.

РЕАЛЬНАЯ ЖИЗНЬ

# Что в Беларуси изменилось с 1 апреля

*С 1 апреля в жизни Беларуси произошли некоторые изменения. Правда, от некоторых перемен совсем не хочется улыбаться.*

*Так что же изменилось?*

## Подорожал проезд в железнодорожном транспорте

Тарифы на перевозки пассажиров в поездах региональных и межрегиональных линий 1 апреля 2018 года увеличены на 24% и 32% соответственно.

Ранее, напомним, выросли тарифы на перевозки пассажиров железнодорожным транспортом общего пользования на городских линиях. Они увеличены «до номинала, удобного для оплаты» (на 2–6%).

Как отмечают в Министерстве антимонопольного регулирования, тарифы на перевозку пассажиров железнодорожным транспортом общего пользования предыдущий раз повышались в 2015 году.

«На сегодняшний день уровень возмещения населением затрат на оказание внутриреспубликанских пассажирских перевозок железнодорожным транспортом не превышает 20%, – сообщил МАРТ. – Бюджетное субсидирование на эти услуги не осуществляется. Таким образом, решение о пересмотре тарифов принято в целях поэтапного повышения уровня окупаемости перевозок пассажиров железнодорожным транспортом».

## Повышена базовая арендная величина

Базовая арендная величина повышена на 6%. Теперь она составляет 16,11 рубля, ранее – 15,20 рубля.

Базовая арендная величина ежегодно устанавливается Совмином.

Базовая арендная величина применяется в расчетах арендной платы при аренде площадей, находящихся в государственной собственности.

Это касается собственности хозяйственных обществ, в уставных фондах которых более 50% акций (долей) находится в собственности Беларуси или ее административно-территориальных единиц, а также капитальных строений (зданий, сооружений), изолированных помещений, машиномест, их частей, включая капитальные строения (здания, сооружения), изолированные помещения, их части на рынках и в торговых центрах.

## Услуги «Белтелекома» стали дороже

Крупнейший белорусский оператор связи РУП «Белтелеком» повысил тарифы на свои услуги.

Так, с 1 апреля 2018 года стоимость услуг доступа в интернет станет дороже в среднем на 3%.

При этом «Белтелеком» обращает внимание, что остаются неизменными тарифы на наиболее востребованные в настоящее время пакетные предложения линейки «Ясна».

Повышена стоимость услуг телеграфной связи, международных телефонных соединений (в том числе по пропуску трафика белорусских операторов электросвязи на сети зарубежных операторов), выхода на абонентов сотовой подвижной электросвязи, справочно-информационных услуг и других дополнительных услуг электросвязи.

Изменения стоимости «в пределах 6%» коснулись также основных тарифных планов телевидения Zala и некоторых пакетов услуг электросвязи.

«Тарифная политика компании «Белтелеком» направлена на максимальное сдерживание роста цен. Однако постоянное развитие телекоммуникационных технологий и обеспечение гарантированно высокого качества услуг невозможно без модернизации сети, приобретения современного оборудования, разработки новых технических решений и услуг», – поясняет оператор свое решение повысить стоимость услуг.

## Снижены экспортные пошлины на нефть

С сегодняшнего дня Беларусь снизила экспортные пошлины на нефть и нефтепродукты, вывозимые за пределы таможенной территории Евразийского экономического союза (ЕАЭС).

Ставка экспортной пошлины на сырую нефть снижена с 119,5 доллара до 111,4 за 1 т. Пошлина на прямогонный бензин снижена с 65,7 до 61,2 доллара за 1 т, на товарные бензины – с 35,8 до 33,4 доллара.

Пошлина на легкие, средние дистилляты составляет 33,4 доллара за 1 т (ранее – 35,8). Такая же пошлина установлена в отношении дизельного топлива, бензола, толуола, ксилолов, смазочных и прочих масел.

## Выросла стоимость услуг мобильного оператора velcom

Телеком-оператор velcom 1 апреля повысил стоимость услуг мобильной связи.

По данным оператора, уровень абонентской платы, стоимость исходящих вызовов на номера белорусских абонентов, мобильного интернета, SMS, MMS, единовременных взносов, а также специальных и дополнительных услуг для физических и юридических лиц «увеличится не более чем на 3%».

Размеры ежемесячных платежей по рассрочке за оборудование в рамках ранее заключенных договоров остаются неизменными.

Это не первый рост стоимости услуг velcom в нынешнем году. 1 марта подорожал ряд тарифов фиксированной связи и телевидения для частных и корпоративных клиентов – в среднем стоимость увеличилась на 9%.

Число абонентов мобильной связи velcom превышает 4,8 миллиона. Абонентская база фиксированного интернета и ТВ насчитывает более 300 тысяч пользователей.

## Подорожали некоторые марки сигарет

Как сообщили в фискальном ведомстве, вырастет в цене продукция Гродненской табачной фабрики «Неман»: на пять копеек больше надо будет платить потребителям сигарет Rothmans Demi Click Amber и Kent Double Mix – 1,9 и 2,95 рубля соответственно.

Станут дороже и некоторые сигареты компании «Табак-инвест». В частности, на 0,27 рубля увеличивается цена на сигареты Camel Filters и Camel Blue – 2,15 рубля.

Поставляемые из-за границы «Беларусьторгом» сигареты Aroma Rich Bardesey Blend теперь будут стоить 3,7 рубля.

(Naviny.by.)

ХАКЕЙ

# Дуаер застаецца



У новым сезоне галоўным трэнерам ХК «Дынама-Мінск» па-ранейшаму будзе **Гордзі Дуаер**. З 40-гадовым канадскім спецыялістам, які працуе з камандай з 2017-га, працягнулі кантракт на год, інфармуе прэс-служба клуба.

Гендырэктар мінскага «Дынама» **Анатоль Курылец** адзначае, што былі і іншыя кандыдатуры на пасаду галоўнага трэнера, але пасля аналізу вынікаў мінулага сезона вырашылі: камандзе патрэбны менавіта Дуаер. *«Гэта малады, але ўжо досыць вопытны і амбіцыйны спецыяліст, які прайшоў школу НХЛ і КХЛ*, – кажа Курылец. – *Ён шмат новага і цікавага прыўнёс у наш клуб і прыўнясе яшчэ ў будучыні. Побач з ім прагрэсіруюць не толькі беларускія гульцы, але і нашы спецыялісты, якія ўваходзяць у трэнерскі штаб каманды».*

Як вядома, у мінулым сезоне «Дынама» пад кіраўніцтвам Дуаера не здолела прабіцца ў плэй-оф КХЛ.

ХОТИТЕ – ВЕРЬТЕ, ХОТИТЕ – НЕТ

# Рабочий стол по фэн-шуй

Согласно даосскому учению фэн-шуй, помимо физического мира – видимого, реального – существует еще и невидимый: мир тонких энергий. И все эти, казалось бы, незначительные энергии оказывают на человека достаточно серьезное воздействие. Иными словами, ВСЁ имеет значение, даже самые обычные поступки и вещи. Вот на что нужно обращать внимание тем, кто верит в фэн-шуй.

Рабочее место должно не только быть удобным и комфортным в использовании, но еще и притягивать удачу и благополучие. Древнее учение фэн-шуй дает некоторые советы для привлечения благоприятных энергий, способных улучшить ваше материальное положение и ускорить карьерный рост.

Поскольку энергетика рабочего места напрямую связана с вашими успехами, уделите ему должное внимание. Итак, для начала внимательно и критично рассмотрите свой рабочий стол. Он должен быть чистым и соответствовать вашему роду занятий. Рабочий стол ни в коем случае не должен быть размещен напротив входной двери. Не стоит также ставить кресло спинкой к окну или к двери. Идеально, если спина сидящего за столом будет защищена стеной, а лицо направлено в сторону окна.

Также фэн-шуй не рекомендует размещать рабочий кабинет вблизи туалета или кухни: во-первых, лишний шум не способствует рабочей обстановке, а во-вторых, энергия денег может легко «просочиться» в сливные отверстия…

Теперь, когда мы разобрались с правильным размещением рабочего стола, приступим к его активизации. За вашей спиной – на стене – желательно повесить картину с изображением гор либо успешного человека. Обратите внимание, что за вашей спиной ни в коем случае не должна присутствовать символика воды, даже в простейших вариантах. Дело в том, что вода имеет слишком бурную и сильную энергию, которая может смыть энергию успеха и денег. Размещайте такие символы впереди себя.

Идеально, если по бокам рабочего места стоят шкафы – это символы защиты и охраны ваших достижений!

Теперь рассмотрим кресло. Чем выше его спинка, тем значительнее рост карьеры того, кто в нем сидит. У кресла также обязательно должны быть подлокотники, они обеспечивают комфорт и подсознательно защищают.

Над рабочим местом хорошо было бы повесить картину с изображением денег. Такой ход благоприятно отобразится на привлечении и увеличении денежных потоков.

А вот часы в рабочем кабинете нежелательны. Они не только мешают сосредоточиться на работе, но и, согласно фэн-шуй, олицетворяют быстротечность всего материального.

Теперь поговорим о талисманах. Рабочий стол должен быть чистым, комфортным и не захламленным. Хорошо поставить на своем столе хрустальную пирамидку: она привлекает карьерный рост и формирует желание двигаться к целям. Справа от себя поместите талисман защиты – к примеру, статуэтку Ганеши (это один из наиболее почитаемых в Индии богов): считается, что этот талисман наделен волшебной способностью помогать в принятии важных решений, касающихся бизнеса. Слева от себя расположите какой-нибудь символ изобилия: это может быть дракончик или жаба с монетками… Или же любой предмет, символизирующий конкретно для вас материальные блага. Например, дорогая визитница или роскошный письменный набор.



Опрятное рабочее место притягивает удачу и благополучие.

ПЕЧАЛЬНАЯ ИСТОРИЯ

*Трагедия в Кемерове всколыхнула весь мир. А кто из наших читателей знает, что чуть более семидесяти лет назад у нас в Беларуси в результате чудовищного пожара погибло гораздо больше людей?*

# АД НА НОВОГОДНЕМ БАЛУ

*В 1946 году в Минске произошел страшный пожар, в котором заживо сгорело очень много молодых людей.*

4 января 1946 года в Минске заседало Бюро ЦК КП(б)Б. Среди присутствовавших был руководитель компартии Беларуси П.Пономаренко, начальник республиканского НКГБ Л.Цанава, нарком НКВД Беларуси С.Бельченко и еще 13 ответственных работников. Лица присутствующих были напряжены. В этом не было ничего удивительного, ведь на заседании обсуждался вопрос о массовой гибели людей в пожаре, произошедшем накануне в столичном клубе госбезопасности.

Вечер 3 января 1946 года не предвещал беды. В расположенном на площади Свободы Клубе НКГБ собиралась молодежь. Отличники учебы, дети высокопоставленных партийных деятелей БССР, молодые офицеры. У всех были пригласительные на первый послевоенный новогодний бал-маскарад. На это мероприятие попали лучшие из лучших. Всего в клубе собралось более 500 человек.



Место, где произошла трагедия.





Фамилия Елены Демидович была выбита на памятнике жертвам пожара по ошибке.

### Бал-маскарад

…В конце декабря 1945 года в уцелевшем во время войны и оккупации здании на площади Свободы активно готовились к новогоднему празднику. Была установлена большая елка, украшенная гирляндами и ватой. Но праздник в ночь с 31 декабря на 1 января провести не удалось – отсутствовало электричество. Свет обещали дать только 3 января. На этот день и был назначен бал-маскарад. Билеты на него распределял горком комсомола, и их получали отличники учебы, активисты, ну и, конечно, дети высокопоставленных чиновников БССР. Впрочем, были и те, кому билет достался, так сказать, по знакомству. Лилия Чижик, одна из выживших в той трагедии, вспоминала, что пригласительный она получила от подруги Люси Рабцевич, с которой Чижик училась на первом курсе мединститута. Отец Рабцевич был Героем Советского Союза и комендантом Клуба НКГБ. Вот он и постарался, чтобы дочь пошла на бал в хорошей компании.

Время было тяжелое, республика лежала в руинах. Но все же руководство Минска нашло средства для того, чтобы организовать бал и приготовить подарки для гостей. Под елкой тогда оказались продукты питания и одежда. Все в основном американского производства.

Накануне бала Минск наводнили слухи, что на празднике пожалует все руководство Советской Беларуси. Развлекать публику, собравшуюся в Клубе НКГБ, должны были известные белорусские артисты, а также оркестр Белорусского военного округа. В день мероприятия вход в Клуб осуществлялся строго по пригласительным билетам.

Дело в том, что в другом крыле здания работала комиссия по расследованию злодеяний немецко-фашистских захватчиков и их пособников. Во время оккупации в этом доме находилось гестапо, весь архив которого после освобождения Минска в июле 1944 г. достался советским специальным органам. Именно с этими нацистскими документами и работали сотрудники советской комиссии. Вход в эту часть здания был закрыт и находился под усиленной охраной (впоследствии этот факт сыграет роковую роль для многих пришедших на бал). Кроме этого, в подвале здания находились камеры, в которых содержались пленные немцы, находившиеся «под следствием».

Перед главным залом на третьем этаже была «комната сказок». Гостей встречали Дед Мороз, Снегурочка, зайцы, белки. Все делалось для того, чтобы молодежь отвлекалась от тяжелых послевоенных будней и окунулась в новогоднюю сказку. Многие украшения были сделаны из легковоспламеняющихся материалов: бумаги и ваты. Да и маскарадные костюмы на приглашенных были зачастую сделаны из марли и бумаги.

### Трагедия

В зале играл духовой оркестр, молодежь танцевала, в клубе царила атмосфера веселья и радости. И вот наступил долгожданный момент, когда на новогодней елке должна была загореться гирлянда. И она загорелась... в прямом смысле. Военный оркестр играл «Утомленное солнце», молодежь была увлечена танцем и восприняла чей-то пронзительный крик «Пожар!» как очередную новогоднюю шутку. Но пламя мгновенно перекинулось на большую фигуру Деда Мороза, набитую ватой, и на другие предметы. Через несколько минут горело уже все вокруг.

Гости бросились к лестнице, ведущей наружу, но и там был огонь. Очевидцы затем вспоминали, что пожар начался именно в «комнате сказок», которая была перед главным залом. Пробиться через эту объятую огнем комнату к спасительному выходу было невозможно, а лестница между этажами была перекрыта кованой решеткой на замке.



Памятник жертвам страшного пожара в Минске в 1946 году на Военном кладбище.

Одной из чудом выживших в том аду была минчанка Цицилия Ионичева. По ее воспоминаниям, первыми к охваченному огнем Клубу НКГБ подъехали не пожарные, а военнослужащие внутренних войск, которые стали вытаскивать ящики с нацистским архивом. Девушка бросилась к дежурному и взмолилась о том, чтобы солдаты открыли двери на лестницу. Но в ответ боец ответил, что не имеет права этого делать, так как лестница связана с соседним крылом и солдатам приказано охранять архив.

Для того чтобы представить ту ужасную ситуацию, стоит вспомнить голливудский фильм-катастрофу «Титаник». Помните момент, когда пассажирам нижних палуб не разрешили подниматься наверх. Похожий ад происходил и в охваченном огнем Клубе НКГБ в Минске.

Все помещение заволокло едким желтым дымом. Осознав, что выхода нет, мужчины стали выбивать окна. Однако нижний этаж также пылал. Кому-то удалось выбраться на чердак, а оттуда по водосточной трубе спуститься вниз. Но большинству пришлось прыгать с третьего этажа. По воспоминаниям, те, кто прыгал позже, приземлялись на тела, лежавшие на земле, что смягчало удар. Одна из выживших тогда, Елена Демидович, вспоминала, что из подвала доносился жуткий вой и крики по-немецки. Это кричали арестованные немцы. Девушка решилась выпрыгнуть из окна. Рядом с ней приземлилась другая девушка, от удара у нее сквозь кожу вылезли сломанные кости. На балконе метался человек в военной форме: сзади пламя, впереди пустота. Офицер смотрел вниз и видел, как разбиваются люди. Через секунду он достал из кобуры пистолет... Вскоре обвалились перекрытия третьего этажа.

Некоторым удалось спастись, пробившись через заваленный мусором черный ход. Дверь там была открыта.

Лилия Чижик, та самая, для которой билет достал комендант Клуба НКГБ, спаслась, выпрыгнув из окна. Девушке повезло, она не разбилась. Оказавшись на улице, она искала Люсю Рабцевич, но подруге спастись не удалось. После того как пожар будет потушен, на пепелище отец найдет лишь браслет дочери.

### Останки жертв хоронили в цинковых гробах

Наутро на площади Свободы стали собираться люди. Они пытались найти детей, которые уцелели во время нацистской оккупации, но погибли уже в мирное время. Обгоревшие тела и останки погибших выносили из сгоревшего здания и укладывали вдоль дороги. Тел было очень много. Их складывали в два ряда. Рядом ходили обезумевшие от горя люди, пытавшиеся опознать по останкам одежды и обуви своих детей.

В ту страшную ночь в огне погибло несколько сотен молодых людей. 4 января 1946 года в Минске прошло экстренное заседание бюро ЦК КП(б)Б, на котором пожар в Клубе НКГБ в Минске расценили как «ЧП, имеющее политический характер». В протоколе заседания №317 (*документ хранится в Национальном архиве Республики Беларусь*. – **«Историческая правда»**.) также было отмечено, что «организаторы мероприятия проявили полную беспечность и безответственное отношение к его проведению. Не обеспечили должного руководства и необходимых мер, которые должны были гарантировать соблюдение порядка и безопасности в помещении, где проходил бал-маскарад».

В итоге секретарю горкома Горину и секретарю ЦК ЛКСМБ Зимянину объявили выговор, а секретаря горкома по пропаганде Молочко сняли с должности. Директора клуба осудили на 6 лет тюремного заключения, а коменданта Рабцевича хоть и арестовали, но вскоре выпустили. Дочь этого человека сгорела заживо, и поэтому власти посчитали, что он заплатил за халатность сполна.

После пожара несколько военнослужащих, охранявших злополучную дверь на лестнице, ведущей к архиву гестапо, не выдержав мук совести, покончили с собой. Специальной комиссии было предписано в кратчайшие сроки расследовать все обстоятельства пожара, выдать пострадавшим необходимое количество обуви и ткани на восстановление гардероба, а семьям погибших выплатить единовременное пособие.

Точное число погибших в том пожаре не установлено до сих пор. Тех, кто разбился при падении или умер от ожогов, хоронили в одиночных могилах. А в братской могиле не Военном кладбище в Минске похоронили два больших цинковых гроба с останками тех, кто заживо сгорел в здании.

В этой страшной истории до сих пор много неясного. Почему произошел этот страшный пожар? Стала ли причиной трагедии обычная халатность или за пожаром 1946 года кто-то стоял? Одной из наиболее вероятных версий является предумышленный поджог. Как мы уже упоминали, в другом крыле здания находился архив гестапо, в котором были в том числе личные дела агентов, осведомителей и пособников оккупантов. Не все коллаборационисты и пособники нацистов ушли с немцами на запад. Некоторые из них остались в освобожденной Беларуси. Они знали, что будет, если сведения из нацистского архива станут известны советским специальным органам.

Кстати, не исключено, что организаторам этого теракта помогал кто-то в форме военнослужащего Советской армии. К примеру, после пожара бесследно исчез красноармеец Леонид Васильчиков, игравший в оркестре Белорусского военного округа. Стал ли он одной из жертв пожара или был тем самым тайным поджигателем?

В пользу версии поджога говорят и другие факты. Например, то, что было два источника возгорания. Наконец, в ту трагическую ночь несколько пожарных машин разъехались по ложным вызовам, и пожар на площади Свободы тушить было просто некому. Как бы то ни было, 3 января 1946 года останется одной из наиболее трагических страниц в истории Минска и Беларуси.

**Игорь МЕЛЬНИКОВ, кандидат исторических наук.**

РЭЙТЫНГ

# Красовер Volvo XC60 – сусветны аўтамабіль года



Аб гэтым было аб'яўлена на нью-ёркскім аўтасалоне.

На высокую ўзнагароду прэтэндавалі красоверы Mazda CX-5 і Range Rover Velar.

Лепшым прадстаўнічым аўтамабілем стаў флагманскі седан Audi A8.

Тыя, хто любіць спартыўныя машыны, могуць ганарыцца седанам BMW M5.

СІТУАЦЫЯ

# «Крумкачы» і піяніст

*Адным з заснавальнікаў футбольнага клуба стаў лаўрэат міжнародных конкурсаў піяніст Юрый Бліноў.*

Як ужо вядома, сталічны футбольны клуб "Крумкачы" не дапусцілі да ўдзелу ў вышэйшай лізе, бо каманда не прайшла ліцэнзаванне. Да гэтага часу заснавальнікі клуба павінны некалькі сот тысяч долараў розным структурам – барысаўскаму БАТЭ, у якога пазычалі грошы, былым футбалістам, службам МНС і "хуткай дапамогі", якія працавалі падчас матчаў. Пакуль гэтыя даўгі "вісяць", каманда не можа быць заяўлена ні ў адну лігу.

Аднак балельшчыкі знайшлі выйсце і зарэгістравалі Народны футбольны клуб (НФК) "Крумкачы". Сярод заснавальнікаў – варатар "Крумкачоў" **Яўген Касцюкевіч** і лаўрэат міжнародных конкурсаў піяніст **Юрый Блінoў**, які таксама з'яўляецца вялікім аматарам футбола.

Дарэчы, старшыня Мінскай гарадской федэрацыі футбола **Міхаіл Вяргеенка** ўжо заявіў, што іх арганізацыя хадайнічае аб уключэнні каманды ў лік удзельнікаў першынства ў другой лізе. Пры гэтым з боку сябраў прэзідыума Федэрацыі футбола пярэчанняў не было.

Чэмпіянат Беларусі па футболе ў другой лізе стартуе 14 красавіка, а ў "Крумкачоў", хутчэй за ўсё, пачынаецца жыццё з чыстага ліста.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

СВЕЦКАЯ ХРОНІКА

# Два Дзмітрыі

Беларускі спявак і кампазітар ***Дзмітрый Калдун*** сфатаграфаваўся разам з прэс-сакратаром ***Уладзіміра Пуціна Дзмітрыем Пясковым***. Здымак выклікаў неадназначную рэакцыю ў сацыяльных сетках.

Пяскоў і Калдун былі запрошаны на вечарыну з нагоды 50-годдзя **Уладзіміра Праснякова**, жонкай якога з'яўляецца беларуска, былая саліста Магілёўскай філармоніі **Наталля Падольская**.

*"Два Дзмітрыі, загадвайце жаданні!"* – падпісаў здымак Калдун. І тут жа атрымаў у адказ: *"Адзін з іх – ілгун!"*, *"Вырві яму вусы!"* Але былі і тыя, хто рэагаваў на здымак з гумарам і жартаваў: маўляў, проста Калдун шукае сабе новага прэс-сакратара…

Нагадаю, што Дзмітрый Калдун стаў пераможцам праекта Першага расійскага тэлеканала «Фабрыка зорак-6», а таксама прадстаўляў Беларусь на конкурсе "Еўрабачанне" ў 2007 годзе з песняй Work Your Magic і ўпершыню за ўсю гісторыю ўдзелу Беларусі ў гэтым конкурсе вывеў краіну ў фінал, заняўшы 6-е месца.

Падчас канцэрта з нагоды юбілею мужа Наталлі Падольскай Уладзімір Праснякоў і Дзмітрый Калдун прэзентавалі сумесны дуэт.

*"Для мяне сёння чароўны дзень*, – пракаментаваў падзею Дзмітрый Калдун. – *На юбілейным канцэрце адбылася прэм'ера нашага дуэта "Ты не птушка". Так, прызнанне "я вырас на вашых песнях" гучыць архаічна, але я выдатна памятаю, як танчыў мядляк на школьнай дыскатэцы пад "Падмані мяне" і "Замак з дажджу"... А зараз з легендай на адной сцэне ў такі дзень і са сваёй аўтарскай песняй! Дзякуй лёсу за гэта, дзякуй!"*

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
3 КРАСАВІКА 2018 г.

ЗАЛАТАЯ ШАЙБА

## Падведзены вынікі турніру па хакеі «Алімпійскія надзеі»



Першае месца – за мінскімі "Грыфонамі". Другое – за камандай "Алімп" з Брэсцкай вобласці, трэцяе – за юнымі сталічнымі ігракамі, якія выступаюць пад брэндам "Мядзведзь". Лядовая дружына "Міране" з Магілёўскай вобласці – на чацвёртым месцы.

З усімі ўдзельнікамі турніру сфатаграфаваўся прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнка *(на здымку – з «Грыфонамі»).*

ВЕДАЙ НАШЫХ!

## Пакарыць Амерыку



7-гадовы гамяльчанін **Ягор Грынько** стаў пераможцам Нацыянальнага юнацкага шахматнага чэмпіянату ЗША ў сваёй узроставай катэгорыі.

Не так даўно Ягор пераехаў у ЗША з бацькамі, якія там працуюць па кантракце.У свой час хлопчык займаўся шахматамі ў Гомельскай СДЮШАР-3.

**Віктар ШПАК.**

ПРЫВАТНАЕ ЖЫЦЦЁ

# Вікторыя Азаранка працягвае змагацца за сына

*І ў той жа час беларуская тэнісістка падымаецца ў спартыўным рэйтынгу.*

Пасля прайгранага паўфінальнага матча на турніры ў Маямі **Вікторыя Азаранка** шчыра распавяла, што пакуль яна сябе не вельмі добра адчувае ў фізічным плане.

«*Мне не хапала хуткасці*, – патлумачыла сваё паражэнне спартсменка. – *У першым сэце я яшчэ была свежая і ўсё паспявала, а далей перастала біць па мячы так, як павінна была. Напрыканцы матча я ўжо нават не магла нармальна згінаць ногі. Але ў цэлым нават паміж Індыян-Уэлсам (турнір на пачатку сакавіка. – **Рэд.**) і Маямі я выдатна дадала. Цяпер спадзяюся працягнуць гуляць і працаваць, бо для таго, каб выходзіць з розных складаных сітуацый на корце, патрэбна гульнявая практыка*».

28-гадовая беларуска распавяла таксама, што судовы разгляд аб апецы над яе сынам яшчэ не скончаны і яна не ведае, які турнір стане для яе наступным. І дадала, што накіравала свае рэкамендацыі Савету тэнісістаў па змене правілаў для маці.

"*Лічу, што абаронены рэйтынг з нагоды нараджэння дзіцяці павінен распаўсюджвацца на 3 гады*", – заявіла Азаранка.

Дарэчы, учора стала вядома, што па выніках турніру ў Маямі тэнісістка вярнулася ў Топ-100. Зараз у яе 92-е месца.

Таксама Вікторыя заявіла, што плануе выступіць на майскіх турнірах у Мадрыдзе і Рыме.

"*Зараз я ведаю, дзеля чаго гуляю*, – распавяла журналістам Азаранка. – *Я гуляю дзеля сына. Мае перамогі – для яго...*"

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЗЕМЛЯКІ

# Вера Еўдакімчык з канадскага Таронта

У знакамітага Уладзіміра Някляева ёсць такія радкі:

*З неверагодных Гасподніх шчадрот*
*Скроены наш беларускі народ.*
*Мова – нямога.*
*Вочы – сляпога.*
*Вушы – глухога.*
*Сэрца – чужога.*

Боль паэта лёгка зразумець: на жаль, мы, беларусы, маем не толькі шмат добрых рысаў, але і нямала заган. Не кожны глядзіць на свет белы шчыра і з любоўю, не ўсе сваімі справамі імкнуцца да таго, каб стаць лепш і каб пра нас, беларусаў, не думалі як пра нацыю, у якой "мова – нямога, вочы – сляпога, вушы – глухога, сэрца – чужога".

Не раз задумвалася пра гэта Вера Еўдакімчык. І тады, калі яшчэ вучылася ў ліцэі, і тады, калі паступіла на архітэктурны факультэт Нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта. Прыходзяць такія думкі і цяпер у далёкай Канадзе, куды лёс закінуў некалькі гадоў таму пасля працы ў Маскве.

Вера – карэнная мінчанка. Не-не ды і сцісне сэрца туга па Радзіме. А разам з ёю абвастраецца прага да беларушчыны.

Аднойчы сяброўка запрасіла Веру на святкаванне яблычнага Спасу ў дом суполкі беларусаў Таронта. Як быццам нічога асаблівага не ўбачыла, але ж падумала: як добра, што вакол свае людзі!

Праз нейкі час ад той жа сяброўкі атрымала запрашэнне на дзень нараджэння дачкі ў памяшканне беларускай суполкі. Быў падрыхтаваны самадзейны спектакль, ёй, Веры, даручылі адну з роляў. Потым актывістка суполкі Ірына Тоўсцік наладзіла майстар-клас для жадаючых удасканаліць беларускую мову. Вера пазнаёмілася з новымі людзьмі, шчыра ўлюбёнымі ў Беларусь.

Суполка беларусаў у Таронта не вельмі вялікая і не надта заможная.

– Але, – кажа Вера, – наша, родная. Разам адзначаем многія беларускія святы. Збіраемся на Ялінку, на Купалле, напрыклад. Апошнім часам да суполкі стала больш актыўна падцягвацца моладзь. Стварылася ядро актывістаў.

Мы задумаліся, як хоць пакрысе дапамагаць Беларусі. Сярод нас няма мільянераў, але ўсё ж хочацца неяк падтрымаць дзяцей-сірот, другіх абяздоленых.

У Таронта прынята не выкідваць дзіцячыя адзенне і абутак, а знаходзіць адрасы тых, каму яны могуць спатрэбіцца. Аддаюць знаёмым сям'ям, дзе растуць дзеткі. Калі такіх знаёмых няма, то можна рэчы пакінуць у спецыяльных кантэйнерах на вуліцы.

Загарэліся і мы гэтай ідэяй – перасылаць добрае адзенне ў Беларусь. Я пачала шукаць, з кім можна звязацца ў Мінску. Выйшла на кіраўніцу сацыяльнага цэнтра "Шчаслівы малыш", які дзейнічае пад эгідай аб'яднання "SOS Беларускія вёскі". Гэта недзяржаўная арганізацыя, якая існуе дзякуючы дабрачыннай германскай дапамозе. Дыяпазон сацыяльных праблем шырокі. Ёсць дзеці-сіроты, якія пражываюць у сем'ях. Ёсць дзеці пры бацьках, але яны трапілі ў групу рызыкі. Нямала жанчын, якія моцна пацярпелі ад гвалту ў сям'і. Свае цяжкасці ў непаўналетніх будучых маці, бацькі якіх настойваюць на абортах. Жанчыны з маленькімі дзецьмі, якія апынуліся ў цяжкім матэрыяльным становішчы. Часцей за ўсё гэтым бедалагам няма дзе жыць.

Мне распавялі, што ў Мінску ёсць прытулак. Усіх, хто туды трапляе, падтрымліваюць не грашыма, а рэчамі, дахам над галавой. Я запыталася, ці патрэбны ім дзіцячыя рэчы. Мне адказалі, што патрэбны, асабліва зімовы абутак.



Парад нацый у Таронта



Вера Еўдакімчык (другая справа) з сяброўкамі

І ўсё ж калі дайшла справа да канкрэтыкі, то ўзнік шэраг цяжкасцяў. На перасылку рэчаў існуе вялікі падатак. Больш за 10 кілаграмаў не адправіш. Ніякай палёгкі з-за гуманітарнага характару грузу няма. Раней пры пералёце дадаткова да свайго багажу можна было за плату ўзяць другую валізку. Плата была пасільная – 75 канадскіх долараў. Але не так даўно тарыф павысілі да 160–200 долараў, што ўскладніла нашы планы.

Было прынята больш простае рашэнне: сабраць грошы і на іх набыць у Мінску неабходныя рэчы. Галоўнае, каб наша памкненне не атрымалася аднаразовым, каб мы здолелі, няхай і не вельмі часта, але рэгулярна дбаць пра дзетак. У нас, беларусаў, няма пакуль такой усталяванай гуманітарнай з'явы, як фандрэйзінг. Убачым няшчасную бабульку, бязногага інваліда – дадзім ім рубель. Але ад нашага рубля жыццё ў небарак лешым не зробіцца. Пра іх неўладкаванасць трэба клапаціцца пастаянна. Ментальнасць беларусаў, якія жывуць за мяжой, стала мяняцца да лепшага, бо там бачым мноства станоўчых прыкладаў.

Мы спрабавалі спачатку запрашаць землякоў да дабрачыннасці праз сеціва, абвесткі. Не, гэта не спрацоўвае. Лепш персанальна гутарыць з кожным, так лягчэй знайсці паразуменне. Неабходна пераадолець недавер, асабліва калі збіраюцца грошы і ўзнікаюць пытанні: а для чаго? для каго? ці не падмане нехта вас, а вы – нас?

Да калядных святаў мы сабралі пэўную суму грошай. Звярнуліся ў храм Беларускай аўтакефальнай царквы, святары таксама зрабілі грашовы ўнёсак і папрасілі, каб у перадачы падарункаў у Мінску ўдзельнічаў святар айцец Леанід.

На Новы год Вера Еўдакімчык разам з мужам наведала бацькоў у Мінску. Па ранейшай дамоўленасці сустрэлася з Ірынай Шмак, кіраўніцай сацыяльнага цэнтра. Іх невялікі офіс месціцца ў школе №106. На сродкі цэнтра быў зроблены рамонт аднаго з памяшканняў, і з іх не спаганяюць арэндную плату. Ёсць магчымасць праводзіць трэнінгі ў актавай зале школы. Іх ладзяць прафесійныя псіхолагі, юрысты, лагапеды, педагогі.

Няма сумневу, што падарункі ад суполкі беларусаў з Таронта трапяць па прызначэнні.

## Беларускі бусел на парадзе нацый

– Крыўдна, – распавядае спадарыня Вера, – калі заўважаеш, што беларусы як нацыя растварающца, ніякавеюць у сусветным асяроддзі. Не аднойчы пераконвалася: любы егіпцянін, пакістанец, індус з гонарам падкрэсліваюць прыналежнасць да сваёй радзімы, зямлі, нацыі. Яны збеглі адтуль ад галечы, беднасці, пакут, але кажуць пра сваю радзіму выключна станоўча, распавядаюць пра яе з любоўю. Называюць сваіх дзетак толькі нацыянальнымі імёнамі. Іх патомкі вырастуць канадцамі, але яны будуць валодаць і мовай продкаў, ведаць звычаі.

Многім маім суродзічам больш уласцівы абыякавасць, гатоўнасць успрыняць чужое, чым замілавана зберагаць сваё. Мы жывём у квартале, які шчыльна населены ўкраінцамі, сербамі, палякамі. Крыўдна, але ў нацыянальным сэнсе мы аўтсайдары.

Пытаюся, якія ўражанні выклікае ў Веры родны Мінск?

– З архітэктурнага гледзішча, – разважае яна, – сумна. Мы на працы ў Таронта перыядычна робім прэзентацыі на тэмы дойлідства. Хутка падыдзе мая чарга выступаць. Паколькі выбар тэмы вольны, то мне хацелася пазнаёміць калег з Мінскам. Наша сталіца для абсалютнай большасці канадцаў – невядомая тэрыторыя. Шкада, але пахваліцца нечым асаблівым я не змагу. Навабуды не зрабілі беларускую сталіцу цікавай, наадварот. "Дом Чыжа" і гатэль на беразе Свіслачы – гэта ўжо класічныя прыклады дурнога густу. Раней Мінск вызначаўся тым, чаго не знойдзеш у многіх канадскіх гарадах. Мы мелі ў горадзе водна-зялёны дыяметр, планаваліся нават калідоры для вятроў, для прадзімання-асвяжэння паветра. Цяпер, я заўважыла, яны пазатыканы шаблоннымі бетонна-шклянымі скрынямі, якіх поўна ў любой заходняй правінцыі. І некаму думаецца, што ў нас правіць баль архітэктура. Не, наадварот.

– Так, спадарыня Вера, у вас як у архітэктара вострае вока. Нашы дойліды сапраўды заслугоўваюць крытыкі. Але давайце вернемся да вашага жыцця ў Таронта. Беларускі дух усё ж адчуваецца?

– Па крайняй меры – не знікае.

– Я вам раскажу, як мы, беларусы, адзначалі 150-гадовы юбілей Канады. У нашай суполцы і за яе межамі, у асяроддзі фолк-калектываў добра вядомы гурт "Яваровыя людзі". Кіруе ім Віялета Кавалёва. І вось нам прапанавалі паўдзельнічаць у святочным парадзе нацый. На запрашэнне адгукнулася рэкордная колькасць суродзічаў. Сабралі грошы, прадумалі афармленне. У выніку зрабілі фігуру бусла. Уявіце сабе размах крылаў – 11 метраў. Усе нашы прыйшлі ў чырвона-белых вышыванках. У руках удзельнікаў парада – валошкі даўжынёй тры метры. Спявалі песні, смяяліся, жартавалі. Вельмі годнае свята атрымалася. Фігуру бусла потым вывезлі за горад. Там у суполкі ёсць дом "Слуцак", небагаты, але ў вельмі прыгожай мясціне. Прыродны сімвал Беларусі чакае чарговага свята.

**Мікола ЗЯНЕВІЧ.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# Футбалісты яшчэ не выйшлі з зімовай спячкі?

*Стартавала першынство Беларусі па футболе.*

Не ведаю, колькі часу яшчэ спатрэбіцца футбольным камандам, каб прачнуцца пасля зімы, але першы тур быў настолькі сумны, што можна было заснуць, гледзячы асобныя матчы. Чаго варты хаця б той факт, што з васьмі матчаў тура ў пяці былі зафіксаваны нічыі. Пры гэтым тры гульні завяршыліся з аднолькавым лікам – 0:0. Дарэчы, на матчы паміж камандамі "Прамень" і "Мінск" прысутнічала ўсяго 350 гледачоў, і з такім футболам балельшчыкаў не пабольшае.

А вось у Гродне фанаты "Нёмана"– проста малайцы! Пасля гульні яны зладзілі неверагодна прыгожы перформанс у гонар 100-годдзя абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Балельшчыкі разгарнулі вялізны плакат у выглядзе Трэцяй устаўной граматы, якая была прынята 25 сакавіка 1918 года і ў якой кіраўнікі БНР абвясцілі пра незалежнасць.

Запомніўся першы тур і балельшчыкам барысаўскага БАТЭ. І не столькі яны парадаваліся за сваю любімую каманду (*перамогу над дэбютантам вышэйшай лігі мінулагодні чэмпіён ледзь утрымаў. –* **Аўт.**), колькі за Віталя Радзівонава, які яшчэ нядаўна выступаў за БАТЭ, а зараз вырашыў павесіць буцы на цвік. Перад матчам адбыліся ганаровыя праводзіны Віталя, хаця з футболам і сваёй камандай ён усё роўна застаецца – зараз Радзівонаў працуе ў БАТЭ спартыўным дырэктарам…

Адным словам, першы тур не моцна парадаваў аматараў футбола інтрыгамі ў матчах і прыгожымі галамі, але, спадзяёмся, усё лепшае яшчэ наперадзе.

Вось усе вынікі матчаў 1-га тура: "Прамень" (Мінск) – "Мінск" – 0:0, "Нёман" (Гродна) – "Віцебск" – 1:1, "Гомель" – "Слуцк" – 0:0, "Шахцёр" (Салігорск) – "Дынама" (Брэст) – 0:0, "Дынама" (Мінск) – "Тарпеда-БелАЗ" (Жодзіна) – 2:1, " Іслач" (Мінскі раён) – "Тарпеда" (Мінск) – 1:1, "Гарадзея" – "Днепр" (Магілёў) – 1:2, БАТЭ (Барысаў) – "Смалявічы" – 1:0.

**Алесь СІВЫ.**

## Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дынама (Мн) | 1 | 1 | 0 | 0 | 2–1 | 3 |
| Днепр | 1 | 1 | 0 | 0 | 2–1 | 3 |
| БАТЭ | 1 | 1 | 0 | 0 | 1–0 | 3 |
| Віцебск | 1 | 0 | 1 | 0 | 1–1 | 1 |
| Іслач | 1 | 0 | 1 | 0 | 1–1 | 1 |
| Нёман | 1 | 0 | 1 | 0 | 1–1 | 1 |
| Тарпеда | 1 | 0 | 1 | 0 | 1–1 | 1 |
| Гомель | 1 | 0 | 1 | 0 | 0–0 | 1 |
| Дынама (Бр) | 1 | 0 | 1 | 0 | 0–0 | 1 |
| Прамень | 1 | 0 | 1 | 0 | 0–0 | 1 |
| Мінск | 1 | 0 | 1 | 0 | 0–0 | 1 |
| Слуцк | 1 | 0 | 1 | 0 | 0–0 | 1 |
| Шахцёр | 1 | 0 | 1 | 0 | 0–0 | 1 |
| Гарадзея | 1 | 0 | 0 | 1 | 1–2 | 0 |
| Тарпеда-БелАЗ | 1 | 0 | 0 | 1 | 1–2 | 0 |
| Смалявічы | 1 | 0 | 0 | 1 | 0–1 | 0 |



Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

9 772071 964000 18027

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 02.04.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 410 экз. Заказ № 1391.